

*14 мая 1998г.*
*Святую Імшу канцэлебруюць кардынал Казімір Свёнтэк, кардынал Фрыдрых Вэтэр, Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі*











*13 мая.*
*Пачатак перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай па Мінска–Магілёўскай архідыяцэзіі.*
*Адведзіны Мінскай архікатэдры Найсвяцейшай Марыі Панны.*



*1998 ГОД — ГОД ДУХА СВЯТОГА*

## *Ян Павел II*

# *ПРЫЙДЗІ, ДУХ ЛЮБОВІ І СПАКОЮ!*



**Дух Святы,** жаданы госць душаў, адкрый нам глыбокі сэнс Вялікага Юбілею і ўчыні нас здольнымі перажываць яго з вераю, у надзеі, якая падмануць не можа, а таксама ў любові, якая не чакае адплаты.

Дух Праўды, што пранікаеш глыбіні Бога самога, памяць і прароцтва Касцёла, вядзі чалавецтва да прызнання ў Езусе з Назарэту адзінага Пана хвалы, Збавіцеля свету і найвышэйшае спаўненне гісторыі.

Дух Створца, нябачны дойлід Валадарства, моцаю тваіх святых дароў дазволь Касцёлу адважна пераступіць парог новага тысячагоддзя, каб несці будучым пакаленням святло збаўчага Слова.

Дух Святасці, Боскае дыханне, што кіруе космасам, прыйдзі і аднаві аблічча зямлі. Абудзі сярод хрысціянаў прагу поўнай еднасці, каб былі яны ў вачах свету дзейсным знакам і прыладаю глыбокага паяднання з Богам і ўсяго роду людскога.

Дух Супольнасці, душа і вянец Касцёла, учыні, каб багацце паслугаў і харызмаў служыла еднасці Хрыстовага Цела; учыні, каб свецкія, асобы кансэкраваныя і пасвечаныя слугі Касцёла плённа супрацоўнічалі ў пабудове адзінага Валадарства Божага.

Дух Суцяшальнік, невычэрпная крыніца радасці і спакою, напоўні нас спачуваннем да тых, хто ў патрэбе, суцеш хворых, улі ў сэрцы давер і надзею тым, што церпяць выпрабаванні, ва ўсіх ажыві прагу служэння на карысць лепшай будучыні.

Дух Мудрасці, што пранікаеш розум і сэрцы, учыні, каб навука і тэхніка служылі жыццю, справядлівасці і міру. Зрабі плённы дыялог з іншымі рэлігіямі, учыні, каб усе культуры адкрыліся на каштоўнасці Евангелля.

Дух Жыцця, дзякуючы якому Слова сталася Целам у лоне Дзевы, жанчыны, што маўчыць і слухае, учыні нас адкрытымі на тваю любоў і заўсёды гатовымі ўспрыняць знакі часу, якія ты крэсліш на шляхах гісторыі.

Табе, Дух Любові, разам з Усемагутным Айцом і Сынам Адзінародным, няхай будзе хвала, пашана і пакланенне праз усе вякі вечныя. Амэн.



ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТА




# ДАРЫ ДУХА СВЯТОГА

## *Дар боязі*

Рабіць дабро нам перашкаджае пыха. Пыха штурхае нас да супраціўлення Богу, да таго, што чалавек лічыць сябе самамэтаю, адным словам, губіць сябе. Толькі пакора можа нас выбавіць з такой вялікай небяспекі. Хто дасць нам пакору? Дух Святы, які разлівае ў нас дар боязі Божай.

Гэта ўнутраная арыентацыя грунтуецца на думцы, якую дае нам вера, на думцы пра веліч Бога, перад якім мы — толькі нікчэмнасць; на думцы пра Яго бяконцую святасць, перад якою мы выглядаем зусім нявартымі і нячыстымі; на думцы пра справядлівы Суд Божы, перад якім станем напрыканцы гэтага жыцця; на думцы пра ўпадак, які заўсёды магчымы, калі не хопіць нам ласкі (г.зн., калі мы не прымем яе).

Такім чынам, збаўленне чалавека здзяйсняецца ў боязі і дрыжанні, як вучыць Апостал (гл. Флп 2, 12). Але гэта боязь, якая ёсць дарам Духа Святога, — не павярхоўнае пачуццё, што абмяжоўваецца з'яўленнем у нас жаху перад думкаю пра вечную кару. Гэтая боязь трымае нас у скрусе сэрца, хоць бы нашыя грахі былі даўным-даўно прабачаныя. Яна не дазваляе нам забыць пра тое, што мы грэшнікі, што абавязаны ўсім Божай міласэрнасці і што збаўленыя мы пакуль што толькі ў надзеі (пар. Рым 8, 24).

Таму гэта не рабская боязь. Наадварот, яна становіцца крыніцаю самых тонкіх пачуццяў. Яна можа быць звязана з любоўю, будучы выключна сыноўнім пачуццём, якое заснавана на асцярозе перад грахом з увагі на тое, што грэх абражае Бога... Боязь ставіць стварэнне на адпаведнае яму месца. Святы Павел вучыць нас, што боязь, ачышчаная такім чынам, спрычыняецца да паўнаты асвячэння (пар. 2 Кар 7, 1). Таму мы разумеем, што гэты вялікі Апостал, які быў узнесены ажно ў трэцяе неба, прызнаецца ў сваёй суровасці ў адносінах да сябе, каб не быць адрынутым (пар. 1 Кар 9, 27).

Дух незалежнасці і фальшывай свабоды, які валадарыць сёння ў свеце, спрычыняецца да таго, што боязь Божая становіцца рэдкаю з'яваю. І менавіта гэта — адна з бедаў нашага часу. Панібрацтва з Богам вельмі часта замяняе гэты галоўны наказ хрысціянскага жыцця. Тады затрымліваецца ўсялякае развіццё, а ў душу ўваходзіць падман... Гэта азначае, што дар боязі быў задушаны пустою самазадаволенасцю душы. Пакора згасла, а прыхаваная і ўсеахопная пыха паралізавала рухі душы. Праз тое, што душа ўжо не дрыжыць перад Богам, яна дайшла да таго, што ўжо Яго не знае.

А таму захавай у нас, о Духу Божы, дар боязі Божай, якім Ты адарыў нас у хвіліну нашага хросту. Гэта збавенная боязь дасць нам настойлівасць у добрым, стрымліваючы развіццё духу пыхі...

Няхай яна суцішвае нашу запальчывасць, няхай выкараняе з нас гнуснасць, бесперапынна аб'яўляючы нам веліч і святасць Таго, Хто нас стварыў і Хто будзе нас судзіць.

Мы ведаем, о Духу Божы, што гэта шчаслівая боязь не гасіць любові. Яна далёкая ад таго, яна знішчае перашкоды, якія б стрымлівалі развіццё любові...

Чувай над нашымі дзеяннямі, о Духу Божы! Зберажы ў нас каштоўны дар, які Ты захацеў нам даць. Навучы нас прымірыць спакой і радасць сэрца з бояззю Божаю згодна з наказам Псальміста: "Служыце Пану ў боязі, з радасцю спявайце Яму" (Пс 2, 11-12).

*А. Праспэр Гуэрангэр OSB.*
*Пераклад К.Л.*





ПЕРЭГРЫНАЦЫЯ ФІГУРЫ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ

# АДКРЫЕМ СЭРЦЫ НАШАЙ МАЦІ

Не зважаючы на няветлы сцюдзёны вецер, людзі цярпліва чакалі каля ўваходу ў катэдру. Ды вось нарэшце пад'ехала ўпрыгожаная майскімі кветкамі машына, і чатыры хлопцы вынеслі з яе фігуру Маці Божай Фацімскай. Людзі ўкленчылі проста на зямлі, у многіх на вачах свяціліся слёзы радасці — Маці Божая Фацімская наведала сталіцу Беларусі.

З далёкай Партугаліі, з Фацімы, яна прыйшла на Беларусь — да сваіх дзяцей. Прыйшла, каб пачуць стук іхніх сэрцаў, выслухаць просьбы, лагодна прыняць падзякі. 13 мая 1998 года, у 81-ю гадавіну першага аб'яўлення ў Фаціме, фігура Маці Божай Фацімскай распачала сваю перэгрынацыю па Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У гэтай урачыстасці прынялі ўдзел арцыбіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, кардынал Казімір Свёнтак, біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч, нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, многія святары з розных куткоў Беларусі, якія знарок дзеля гэтае памятнае сустрэчы прыехалі ў Мінск.



Працэсія каля касцёла святых Сымона і Алены

Яшчэ зусім нядаўна фігура Маці Божай Фацімскай вандравала ад парафіі да парафіі па заходніх землях нашай Бацькаўшчыны. Як клапатлівая маці яна наведала ўсіх, хто імкнуўся з ёю сустрэцца. Асобныя людзі, сем'і, цэлыя супольнасці на Брэстчыне, Гомельшчыне, Гродзеншчыне аддавалі сябе ў апеку Маці Божай. Многія абяцалі выправіць сваё грэшнае жыццё, многія адмовіліся ад ужывання алкаголю, іншых кепскіх звычак, многія пасля доўгіх гадоў аддаленасці ад Бога прыйшлі да Яго са шчырым жалем за свае правіны.

— Гэты візіт Маці Божай да вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі, — сказаў на ўрачыстасці ў катэдры біскуп Аляксандр Кашкевіч, — змяніў жыццё многіх людзей і яшчэ больш наблізіў іх да Бога... Маці Божая Фацімская! Хоць мы і развіталіся з Табою ў Гродне, аднак жа Ты засталася з намі, каб і надалей весці нас да свайго Сына. Святая Марыя! На працягу доўгіх месяцаў Ты пілігрымавала па Гродзеншчыне, углядваючыся ў вочы і сэрцы сваіх верных дзяцей. Умацоўвай і аберагай сваёй ласкай засеянае ў іхніх сэрцах дабро, каб яны здолелі ўзбагаціць сённяшні свет плёнам веры, надзеі і любові.

Маці Божая наведала кожную парафію ў Пінскай і Гродзенскай дыяцэзіях. Кожны, хто прагнуў спаткацца з Ёю, мог гэта зрабіць. Якое ж гэта вялікае шчасце — сустрэцца з Той, што заўсёды гатова прыняць сваіх дзяцей і прытуліць іх да свайго збалелага матчынага сэрца — усё дзеля таго, каб яны станавіліся лепшымі.

Святая Марыя заўсёды мае надзею, што Яе дзеці могуць быць лепшымі. Дзеля гэтага ў 1917 годзе Яна і прыйшла ў Фаціму. Прыйшла, бо не магла не прыйсці. Свет патанаў у багне граху, Яе дзеці ўсё больш аддаляліся ад Бога і не бачылі ў тым бяды. Тады Яна і спусцілася з нябеснае вышыні на грэшную і сумную зямлю. Прыйшла і сказала сваім дзецям,

## ПЕРЭГРЫНАЦЫЯ ФІГУРЫ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ


Наведзіны фігуры Маці Божай Фацімскай парафіі св.Яна Хрысціцеля

каб яны апаменталіся, каб ратаваліся ад тае багны граху, што ўсё больш і больш засмоктвае іх. Яна папярэдзіла аб небяспецы, якая навісла над светам. Ужо тады, у 1917 годзе, Яна папярэджвала, што людзей чакаюць страшныя выпрабаванні вайны, масавае адступніцтва ад Бога, як заразная страшная хвароба, успыхне ў Расіі і можа распаўсюдзіцца па свеце. Траім пастушкам з Фацімы яна паказала нават, як выглядае пекла, куды трапляюць душы закаранелых грэшнікаў. Як жа ратавацца людзям ад бяды, што навісла над імі? Маці Божая некалькі разоў дала гэтую параду: пакаяцца ў грахах, навярнуцца да Бога, шмат маліца аб прабачэнні грахоў, шмат маліцца за грэшнікаў — і за тых, што жывуць на зямлі, і за тых, што ўжо адышлі ў вечнасць.

Пасланне Нябеснай Пані з Фацімы да гэтага часу застаецца надзённым. Ці не таму Маці Божая выбралася ў гэтую няблізкую пілігрымку па Беларусі напрыканцы XX стагоддзя? Ведаючы нашы расчараванні і беды, наш чарнобыльскі боль і горкі смутак бездухоўнасці, Яна ідзе ад касцёла да касцёла і прымушае людзей, што кленчаць прад Ёю, задумацца над сваім жыццём, наноў узважыць ягоныя каштоўнасці і рашуча прыняць пастанову стаць лепшымі, наблізіцца да Бога. Бо ўсе беды можна перамагчы тады, калі чалавек змагаецца з імі не адзін, але ў лучнасці з Богам.

Кардынал Казімір Свёнтак у прывітальным слове падчас Святой Імшы ў катэдры сказаў:

— Святая Марыя! Я як кіраўнік гэтай архідыяцэзіі сёння, калі Ты заняла сваё месца на троне ў мінскай архікатэдры, аддаю Табе поўную ўладу. Кіруй намі на працягу гэтых пяці месяцаў Твайго прабывання ў часе перэгрынацыі, у часе наведзінаў усіх парафій. Аддаю Табе ўсе парафіі, усе святыні, капліцы, усіх святароў і законнікаў, увесь гэты верны Богу люд Божы. Будзь поўнай гаспадыняй ва ўсіх святынях і дамах.

Дазволім жа руплівай і дбайнай гаспадыні, нашай добрай Маці навесці парадак у нашых душах: вымесці з іх зло і нянавісць, бруд граху, які прыносіць нам столькі няшчасцяў! Няхай жа пасля гэтага ў нашых душах запануюць дабро і любоў, чысціня і спакой чыстага сумлення.

Выслухаўшы на працягу сутак усе просьбы і мольбы парафіянаў катэдральнага касцёла, прыняўшы іх пакаянне і шчырае жаданне выправіць сваё жыццё, Маці Божая Фацімская вырушыла далей — у касцёл святых Сымона і Алены. І пацягнуліся дні перэгрынацыі па Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі — ад касцёла да касцёла, ад сям'і да сям'і, ад сэрца да сэрца... Будзем жа шчыра вітаць нашу Нябесную Госцю з Фацімы! І няхай нашыя сэрцы адкрыюцца Ёй — нашай Маці.

*Ірына Жарнасек*


У касцёле Узвышэння Святога Крыжа



AveMaria



# ФАЦІМА: пасланне, а, можа, сенсацыя?..

**Размова з кардыналам Ёзэфам Ратцынгерам**

***Кардынал Ёзэф Ратцынгер, прэфект Кангрэгацыі Дактрыны Веры — адзін з самых блізкіх супрацоўнікаў і дарадцаў Святога Айца. 13 кастрычніка 1996 г. кардынал ачаляў міжнародныя ўрачыстасці ў Фаціме. У той жа дзень ён даў мясцоваму радыё інтэрв'ю, тэкст якога быў апублікаваны сродкамі масавай інфармацыі многіх краінаў. Мы ўзялі яго і пераклалі на беларускую мову з польскага часопіса "Ryïaniec", бо лічым, што думкі, выказаныя кардыналам Ратцынгерам, такія ж актуальныя сёння, як і два гады таму.***

*— Упершыню Вы, Ваша Эмінэнцыя, кіравалі ўрачыстасцямі ў Фаціме. Якое значэнне мае візіт Вашай Эмінэнцыі ў гэты санктуарый?*

Асабіста для мяне вельмі важна тое, што я магу быць тут як фізічна, так і духова. Бо гэта месца, у якім Маці Божая прамовіла да чалавецтва ў крытычны момант яго гісторыі, а мы ўсё больш выразна бачым, што пасланне тое нічога не страціла са сваёй актуальнасці.

Фаціма — гэта месца, з якога разносіцца заклік да еднасці. Католікі збіраюцца каля падножжа Фацімскай Пані, якая вядзе іх да Хрыста, да спакою, да навяртання. Знаходжанне ў гэтым месцы — прывілея, сапраўднае перажыванне веры, малітвы і радасці.

*— Многія лічаць, што пілігрымкі — гэта дэманстрацыя веры, патрэбная толькі простым, неадукаваным людзям. Ці маглі б Вы выказаць свае адносіны да такіх думак?*

Пілігрымкі ў святыя месцы, напрыклад, у Фаціму, не з'яўляюцца абавязковаю ўмоваю для таго, каб быць хрысціянінам. Аднак мы павінны памятаць, што сам Езус сказаў: "Праслаўляю Цябе, Ойча, Пане неба і зямлі, што закрыў Ты гэта перад мудрымі і разважнымі, а аб'явіў простым..." Простыя людзі маюць вочы і вушы адкрытыя на гэтую праўду. Знаходзіцца сярод іх і стаць перад Панам у паставе дзіцяці альбо, кажучы іншымі словамі, прыняць навяртанне і стацца простым, адкрытым на голас Бога, — гэта вялікая прывілея і надзвычай пазітыўны вопыт. Бог сказаў: "Калі не станеце як дзеці, не ўвойдзеце ў валадарства нябеснае".

*— Частка фацімскага пасланbudzi адносіцца да Расіі. Якое гэта мае значэнне ў святле тых зменаў, што наступілі ва Усходняй Еўропе?*

Дзеці пачулі словы Маці Божай пра Расію (а яны ж нічога абсалютна пра тую краіну не ведалі) менавіта ў 1917 г., годзе кастрычніцкай рэвалюцыі. На маю думку, гэта спецыяльны знак, знак, варты ўвагі і важны. Гэты збег акалічнасцяў дае шмат для роздуму — малыя дзеці перадалі свету сутнасць, якая да сённяшняга дня служыць указаннем. Мы не павінны ўлазіць у дэталі палітычнай сітуацыі, паколькі Маці Божая не ўмешваецца непасрэдна ў справы палітыкі. Марыя дае нам знак, што навяртанне, малітва, пакаянне і быццё хрысціянінам — гэта магчымасць змяніць свет. І хоць нам здаецца, што гэтыя каштоўнасці не маюць нічога агульнага з палітыкаю, аднак менавіта яны з'яўляюцца вызначальнымі.

Найбольш памыляюцца тыя, хто думае, што толькі вялікія

палітычныя ініцыятывы ў стане змяніць свет. Нават хрысціяне не раз спакушаюцца гэтым і мяркуюць, што малітвы не дастаткова, а таму займаюцца палітычнаю дзейнасцю. Тут, у Фаціме, мы даведваемся, што ўсё тое, што ў вачах людзей не мае вялікага значэння, іграе галоўную ролю ў аднове свету. Каб мы толькі зразумелі гэта! Я думаю, што ўсе змены ва Усходняй Еўропе якімсьці чынам звязаны з вераю, перадусім з цяперашнім пантыфікатам, але таксама з усёю вялікаю спадчынаю малітвы Касцёла.

*— Ці можам мы з факту прысутнасці Эмінэнцыі ў Фаціме зрабіць выснову, што Апостальская Сталіца пацвярджае значэнне аб'яўленняў 1917 г.?*

Мяркую, што Фаціма не патрабуе ніякага пацвярджэння з майго боку. Два папы — Павел VI і Ян Павел II — ужо наведалі гэта месца. Мы таксама ведаем, як глыбока ўшаноўваў Маці Божую Фацімскую Пій XII. Гэтыя тры папы прызналі сапраўднасць аб'яўленняў.

*— Ян Павел II сказаў, што яго жыццё ад 13 мая 1981 г. з'яўляецца цудам. Ці згаджаецеся Вы, Ваша Эмінэнцыя, з думкаю, што цяперашні пантыфікат звязаны з Фацімаю?*

Абсалютна так. Пачнем з самых важных фактаў. Тэрарыст Алі Агца быў перакананы, што яму ўдасца застрэліць Папу. Ён сказаў, што калі цэліўся, хацеў яго забіць. Гэта значыць, што цэліўся ён добра. Факт, што Святы Айцец жыве, з'яўляецца проста цудам. Дата гэтай падзеі — знамянальная і вельмі красамоўная. Факты гэтыя мы бачым як бы зверху, але ўсё яно мае больш глыбокае вымярэнне: Святы Айцец, калі ступіў на шлях святарства, цалкам даверыў сябе Маці Божай і Хрысту; пацвердзіў ён гэта біскупскім дэвізам "Totus Tuus".

*— Эмінэнцыя адзін з тых нямногіх, хто ведае так званую трэцюю фацімскую таямніцу. Зразумела, я не чакаю ад Эмінэнцыі яе раскрыцця, аднак хачу задаць пытанне: чаму Касцёл нічога не кажа на яе тэму?*

Каб засцерагчы перад сенсацыйнасцю, перад пагоняю за незвычайным, каб скіраваць нашу ўвагу на аснову марыйнага культу. Пры такіх вялікіх замяшаннях і нездаровай цікаўнасці, якую гэта тэма выклікае, абнародванне праблемы было б памылкаю. Прызванне і місія Касцёла — весці людзей да таго, што з'яўляецца цэнтрам хрысціянскай веры, да самага істотнага ў ёй. Такім чынам мы становімся паслухмянымі Маці Божай, якая аб'явілася дзецям, малым гэтага свету, не дзеля таго, каб узбудзіць сенсацыю. Марыя прыйшла, каб пры пасрэдніцтве гэтых простых людзей скіраваць нашу ўвагу на самае важнае, каб заахвоціць нас да жыцця малітваю, вераю, сакрамэнтамі.

*— Скажыце, рашэнне не раскрываць трэцюю таямніцу выйшла ад Папы?*

Так, гэта было рашэнне Святога Айца, але памятайма, што Папу вядзе Дух Святы, а, значыць, яго рашэнні вынікаюць з Божай пастановы.

*— Што параіў бы Эмінэнцыя ўсім тым, хто так нецярпліва чакае раскрыцця трэцяй таямніцы?*

Хацеў бы ім сказаць, каб засяродзіліся на тым, што ўжо стала вядомым. Маці Божая не ангажуецца ў сенсацыйныя справы. Яна не прыйшла дзеля таго, каб выклікаць страх. Яе мэтаю не з'яўляецца перадача апакаліптычных прароцтваў. Яна прагне весці нас да Хрыста, і гэта самае важнае.

*— Якая праблема сучаснага Касцёла найбольш хвалюе Вашу Эмінэнцыю?*

Стомленасць і вяласць у адносінах да веры, якія назіраюцца ў многіх частках свету і асабліва ў Еўропе... Бог прамовіў да нас, і мы ведаем, як павінны жыць, ведаем, чым ёсць жыццё ў сапраўднасці. Аднак мы не з'яўляемся шчаслівымі, поўнымі энтузіязму і запалу, не дапамагаем адзін аднаму ў прыняцці веры, лічым хрысціянства цяжарам, а звязаныя з ім абавязкі выконваем па звычцы. Гэта вяласць у веры звязана з рэлятывізмам нашага часу, які вядзе да фальшывага эклезіяцэнтрызму.

На маю думку, гэта велізарная небяспека. Многія людзі хочуць зрабіць з Касцёла свой прыватны клуб. Яны забываюць, што касцёл існуе дзеля таго, каб даваць нам магчымасць пазнаваць Бога, пазнаваць Слова Божае і ўводзіць гэтае Слова ў жыццё. Спадзяюся, што дзякуючы такому месцу як Фаціма, наступіць адраджэнне нашай радасці ў веры.

*— Дзякую за размову.*

***З кардыналам Ё.Ратцынгерам размаўляў Аура Мігэль***

***Пераклад К.Л.***

***(Часопіс "Różaniec") № 5, 1997 г.***







# ПРАЎДА ПРА ЗАМАХ

*Сляды вядуць у Маскву... Такі погляд ужо семнаццаць гадоў спадарожнічае падзеям, звязаным з замахам на Святога Айца. Можа гэта свядомае, умелае адцягванне ўвагі ад асобаў, якія фактычна вінаваты ў спробе забойства Яна Паўла II? Шмат істотных фактаў пацвярджаюць гэтую думку.*

Замах на жыццё Яна Паўла II меў месца 13 мая 1981 г. у 17 гадзін 17 хвілін. У гэты самы час 64 гады таму Маці Божая аб'явілася дзецям у Фаціме. Ці было гэта толькі выпадковым супадзеннем?

Ёсць доказы (напр., фільм), што Алі Агца з другім чалавекам, не-азіятам, быў 10 мая перад домам пробашча парафіі ў Тор Трэ Тэстэ, якую візітаваў Святы Айцец. Было гэта за тры дні да тае помнай аўдыенцыі ў сераду на плошчы св. Пятра. Агца стаяў на адлегласці некалькіх дзесяткаў метраў ад Папы і назіраў за развітаннем Яго Святасці з парафіянамі. Чаму ён у той час не выканаў дадзенага яму задання? Шанец выратавання Святога Айца быў бы тады мізэрны: за трыццаць кіламетраў ад Рыма ў Тор Трэ Тэстэ няма ніякай бальніцы. Трэба зазначыць, што дастаўленая ў Інтэрпол копія згаданага фільма ніколі не была раскрыта, на яе таксама не звярталася ўвага ў часе судовага працэсу, які вёўся вельмі паспешліва.

У многіх краінах судовы працэс, які датычыцца чалавека, што замахнуўся на жыццё нават звычайнага грамадзяніна, цягнуўся б адносна доўга. Тым часам працэс Алі Агцы ў Рыме ішоў толькі некалькі дзён. Чаму? Хто быў зацікаўлены ў тым, каб яго хутка скончыць? Працэс гэты быў фарсам, разыграным перад судом прысяжных. Факт тым больш здзіўляе, што фарс гэты меў месца ў свабоднай і дэмакратычнай краіне.



У кароне Фацімскай Пані знаходзіцца патронная гільза. Ян Павел II ахвяраваў яе Санктуарыю як вотум удзячнасці за ўратаванне жыцця.

Сэрджо Трасацці ў кнізе "Падарожжа праз цярпенне — сто дзён Яна Паўла II. 13 мая — 15 жніўня 1981 г." пісаў: "Гэта быў незвычайны працэс, за якім уважліва сачыла грамадскасць". Паскаль сказаў: "Калі чытаеш занадта хутка альбо занадта павольна, нічога не разумееш". Вось і ход працэсу быў для большасці не зусім зразумелы і меў мала агульнага з справаю, можа, таму, што быў занадта павярхоўны... Судовая справа з яе рытуалам не адпавядала спадзяванням..."

Важныя асобы Італіі, пераважна Рыма, былі "пакараныя" публічным раскрыццём звыш дзевяцісот чалавек, прыналежных да масонскай ложы П2. У спісе знаходзіліся палітыкі, якія займалі высокія пасады ў дзяржаве, суддзі і пракуроры, выкладчыкі ВНУ, артысты, бізнесмены, генералы арміі і паліцыі. Інфармацыя для пасвечаных у планаванае забойства Папы з'явілася ў форме падабранага фотаздымка Яна Паўла II 24 красавіка 1981 г. у "International Herald Tribune".

Усе дадзеныя ўказвалі на тое, што спроба забойства Святога Айца знаходзіцца ў той самай серыі замахаў, што і забойства Дж.Ф.Кенэдзі, пастара М.Л.Кінга альбо прэм'ера Швецыі У.Пальмэ. Згодна з думкаю Яна Паўла II, трэба прызнаць, што было гэта "сутыкненне незямных моцаў". Была гэта спроба супрацьдзеяння намерам Святога Айца, які жадаў быць на чале ўрачыстасцяў, прызначаных на 7 чэрвеня 1981 г. (свята Спаслання Духа Святога). У гэты дзень Папа павінен быў прысвяціць увесь свет апецы Марыі, Маці Касцёла.

**Цудоўная апека Маці Божай**

Налічваюць дванаццаць надзвычайных, проста цудоўных акалічнасцяў, якія суправаджалі замах. Назаву толькі некалькі з іх. Яны ўказваюць на мацярынскую апеку Найсвяцейшай Маці над Святым Айцом у тыя трагічныя хвіліны.

Пасля ранення Ян Павел II усведамляў, што яно не смяротнае. Алі Агца выстраліў двойчы. Адзін стрэл нязначна параніў правае плячо, а другі, дзякуючы таму, што закрануў указальны

палец левай рукі, не трапіў у артэрыю бядра і потым прайшоў каля пазваночніка. Больш стрэлаў не было. Чаму? Аказалася, што пісталет заклініла. Вытворца зброі, якой карыстаўся Агца, пазней растлумачыў, што такое здараецца адзін раз на мільён. У няспраўнасці пісталета Агца пераканаўся паўторна, калі, уцякаючы ад пераследавання на плошчы св. Пятра, намерваўся страляць у паліцэйскіх, якія яго даганялі.

У паліклініку Агосціно Джэмэллі раненага Святога Айца адвезлі за рэкордна кароткі час, нягледзячы на тое, што ў дарозе сапсавалася сігналізацыйная сірэна хуткай дапамогі.

У клініцы чакала аперацыйная брыгада, падрыхтаваная да іншай, планавай аперацыі, на чале з найлепшым хірургам. Ён і выканаў першы этап аперацыі. Далейшыя этапы праходзілі таксама пад магутнаю апекаю Найсвяцейшай Маці. У паведамленні ад 19 мая 1981 г. гэта пацвердзілі прадстаўнікі розных медыцынскіх галінаў з усяго свету (Барселоны, Бостана, Кракава, Мюнстэра, Нью-Ёрка, Парыжа), якіх папрасілі ацаніць ход аперацыі і шасцідзённы пасляаперацыйны перыяд.

**Падзяка Святога Айца ў Фаціме**

Ян Павел II у першую гадавіну замаху накіраваўся ў Фаціму (12—13 мая 1982 г.). Вечарам 10 мая ён доўга маліўся ў Капліцы Аб'яўленняў. У часе Св. Імшы, якая адпраўлялася ў знак удзячнасці за ўратаванне жыцця, Папа сказаў: "Год назад у гэты дзень на плошчы св. Пятра ў Рыме быў учынены замах на жыццё Папы, што таямнічым чынам супала з датаю першага аб'яўлення ў Фаціме, якое адбылося 13 мая 1917 г. Супадзенне гэтых датаў прымусіла мяне адчуць, што я незвычайным чынам пакліканы сюды. І вось сёння я тут". Пасля Св. Імшы, ленчачы перад фігураю, Святы Айцец аддаў свет у апеку Маці Божай Фацімскай.

**Чаму не сказана праўда?**

Пасля азнаямлення з публікацыямі пра замах на жыццё Папы і з матэрыяламі следства пра так званы балгарскі след можна без вялікай рызыкі зрабіць выснову аб планамерным скажэнні фактаў і ўкрыванні сапраўдных віноўнікаў праз выкарыстанне бягучай палітычнай сітуацыі ў свеце і асабліва ў Польшчы. У шэрагу выпадкаў стараліся не толькі адвесці ўвагу ад магчымых кіраўнікоў зла, але намагаліся таксама пасеяць нявер'е ў Божы Провід і пашырэнне дэсакралізацыі. Тым часам у Польшчы, у дадатак да ўсяго, гэта датычыла яшчэ і паглыблення гістарычна абгрунтаванага недаверу да рускіх, а ў палітычным сэнсе — таксама недаверу да КГБ, Крамля і міжнароднага тэрарызму, які паходзіў з Усходу. Такі зарыентаваны погляд на гэтыя і іншыя падзеі магчымы ў народзе, не падрыхтаваным да адпаведнай інтэрпрэтацыі гісторыі і бягучых фактаў у свеце арганізаванага зла, і разам з тым у святле дзеяння Божага Провіду.

Трэба мець вялікі давер да Бога і глыбокае ўсведамленне, што гэта Ён — Пан свету і кожнага з нас. Маці Божая ў сваім магутным заступніцтве перад Богам застаецца нашаю Апякункаю. "Totus Tuus" Яна Паўла II у кантэксце замаху на ягонае жыццё з'яўляецца для нас цудоўным прыкладам перамогі Найсвяцейшай Маці ў змаганні з сіламі цемры.

*Габрыэль Туроўскі*
*"Ryianiec" № 5, 1997г.*
*Пераклад К. Гурскай*







*ПАЭЗІЯ*

**Мар'ян ДУКСА**

### *Да спаткання з Маці Божай Фацімскай*

О Маці Божая! Спатканне
з Табою лёс нам падарыў.
Душа ў салодкім трапятанні,
яе Твой позірк азарыў.

Душа, расчыненая насцеж,
свіціцца радасцю жывой.
Нам выпала сягоння шчасце
сустрэцца і пабыць з Табой.

Ах, колькі светлай і жаданай
іскрыцца ўцехі навакол!
Фацімскаю Святою Паннай
і наш наведала касцёл.

І сэрцу дорыш Ты світанне,
надзею дорыш і любоў.
Прыносіш слёзы пакаяння
і ласку абяцаеш зноў.

І літасці сваёй бязмернасць
Ты людству грэшнаму нясеш.
І нам, няўдзячным, міласэрнасць
усю да донца аддаеш.

Хаця б з Табой не размінуцца
і шчасця не ўпусціць свайго.
Як хочацца нам дакрануцца
да яснага плашча Твайго.

У шчодрай ласцы нечуванай
між нас, суцішлых, пашчыруй.
Фацімская Святая Панна,
правіны нашыя даруй.

Над намі, грэшнымі, схіліся,
душу умееш Ты гаіць.
І перад Сынам заступіся
за кожнага, хто тут стаіць.

Мы верым, верым: час настане —
ён з сэрца выплыве Твайго —
час непаўторны навяртання
да Бога людства усяго.

Хай будзе ў нас збавення шанец
і зменшацца адчай і страх.
І блаславёны Твой Ружанец
мы будзем песціць на руках.

Твой дар любові ў нас разліты,
каб толькі сэрцы расцвілі...
Мацнейце, нашыя малітвы,
за ўсіх, хто ходзіць па зямлі.

О Маці Божая! Спаткання
хай доўжыцца бясконцы час.
Ты не захочаш развітання —
ніколі не пакінеш нас.

**Данута БІЧЭЛЬ**

### *Да Фацімскае Божае Маці*

Ты з намі, Маці Фацімы...
Табе квітнеюць вянкі шыпшыны,
дзікія ружы Радзімы.

Сціплай Сабой любуйся
на ўсіх спрадвечных сярэднявечных
на Алтарах Беларусі.

У цудадзейнай пастаці
ў аздобе каменьчыкаў каляровых
Студэнцкае Божай Маці.

Падобна нябёснай птушцы
Ты аб'явілася там, на дубочку,
тут — на жыровіцкай грушцы.

Спыняеш Ты войны і бітвы.
Матулі Будслава і Маларыты
Табе складаюць малітвы...




# ТАЯМНІЦА ЭЎХАРЫСТЫІ

*З Эўхарыстыяй звязаны і да яе скіраваны іншыя сакрамэнты, усе касцёльныя паслугі і справы апостальства.*
*Яна — корань і аснова хрысціянскай супольнасці, місійнай дзейнасці і апасталату.*
*Таму Касцёл пасля кансэкрацыі прамаўляе словы: "Гэта вялікая таямніца веры".*

**1323**

"Наш Збаўца ў часе Апошняй Вячэры, у тую ноч, калі быў выданы, устанавіў эўхарыстычную Ахвяру свайго Цела і Крыві, каб у ёй на ўсе вякі, аж да свайго прыйсця, замацаваць Ахвяру Крыжа і так умілаванай Абранніцы — Касцёлу, даверыць памятку свае Мукі і Змёртвыхпаўстання: сакрамэнт міласэрнасці, знак еднасці, вузел любові, пасхальны пасілак, у якім спажываем Хрыста, у якім душа напаўняецца ласкаю і атрымлівае задатак будучай хвалы".

**1324**

"Эўхарыстыя — гэта крыніца і разам з тым вяршыня ўсяго хрысціянскага жыцця. Іншыя ж сакрамэнты так, як усе касцёльныя паслугі і справы апостальства, звязаны з святою Эўхарыстыяй і да яе скіраваны. Бо ў Найсвяцейшай Эўхарыстыі змяшчаецца ўсё духовае багацце Касцёла, а менавіта — сам Хрыстус, наша Пасха".

**1325**

"Эўхарыстыя азначае і ажыццяўляе камунію жыцця з Богам і еднасць Люду Божага, дзякуючы якім Касцёл з'яўляецца самім сабою. Яна — вяршыня дзейнасці, праз якую Бог у Хрысце асвячае свет, і разам з тым — вяршыня культу, які людзі ў Духу Святым аддаюць Хрысту, а праз Яго — Айцу".

**1326**

Урэшце, праз цэлебрацыю Эўхарыстыі мы ўжо цяпер яднаемся з нябеснаю літургіяй і апярэджваем жыццё вечнае, калі Бог будзе ўсім ва ўсіх.







*Кс. Войцех Барткові*

# ЖЫВОЕ СЭРЦА КАСЦЁЛА



"Эўхарыстыя — крыніца і вяршыня ўсяго хрысціянскага жыцця".

"Крыніца" і "вяршыня" — гэтыя два словы для азначэння Эўхарыстыі Катэхізіс узяў з вучэння апошняга Сабору. Я раю іх добра запомніць, бо яны цудоўна канцэнтруюць у сабе дзве тысячы гадоў разважанняў Касцёла над незвычайным дарам Езуса — мажлівасцю прыпамінання Яго ахвяры. "Гэта чыніце на маю памяць" — сказаў Хрыстус. Таму мы і чынім, але і разважаем над тым, што чынім. А чым больш разумеем, тым больш здзіўляемся.

**"Вяршыня"**

Справаванне Эўхарыстыі — гэта самае большае, што Касцёл можа тут, на зямлі, рабіць. "Праз Хрыста, з Хрыстом і ў Хрысце, Табе, Божа Ойча... **Усякая пашана і хвала...**" Святая Імша — гэта адзіны момант, у які мы можам так смела сказаць і адначасова можам быць пэўныя, што гэта не пустыя словы. Чаму? Мы часта гаворым, што ўсё можам скіраваць *ad maiorem Dei gloriam* ("на большую хвалу Божую" — св. Ігнацы Лаёла). Не толькі малітву, але таксама працу і адпачынак, слова і ўсмешку, слёзы і боль... Дапусцім. Аднак няхай мне хтосьці скажа, што ён дасканала моліцца, што працуе з поўнаю аддачаю, што ўсё гэта ў яго жыцці ўжо Божае. Часта ў часе першай св. Камуніі дзеці спяваюць: "Усё Табе аддаць прагну і для Цябе толькі жыць". Па сутнасці мы так ніколі і не вырастаем з гэтай песні, пастаянна прагнем усё Богу даць і ўвесь час бачым, што яшчэ не ўмеем жыць толькі для Яго. Быць цалкам адданым Айцу — гэта здолеў толькі Езус. Толькі Яго любоў і Яго ахвяра — дасканалыя і поўныя. Менавіта таму Святая Імша з'яўляецца вяршыняю чалавечых магчымасцяў, бо ў ёй Езус раз і назаўсёды, ад імя ўсіх, што былі, ёсць і будуць на гэтай зямлі, сказаў Богу: "Люблю Цябе". Глядзіце, у якой выгаднай сітуацыі мы знаходзімся: быць на Святой Імшы — гэта значыць, далучыцца да Езуса ў момант яднання чалавецтва з Богам. Тут сапраўды неба знаходзіцца найбліжэй.

**"Крыніца"**

Трапнасць гэтага азначэння не трэба тлумачыць усім тым, хто ўдзельнічае ў святой Імшы часцей, чым толькі ў "нядзелі і вызначаныя святы". Яны цудоўна ведаюць, як Эўхарыстыя падмацоўвае, якая гэта крыніца. Тым, хто гэтага яшчэ не адкрыў для сябе, я адрасую павучальную гісторыю пра тое, як "Лука з Клеафасам, абодва ў адзін час, ішлі ў мястэчка Эмаус і сустрэў іх Пан Езус". Гаворка тут ідзе несумненна пра памайстэрску апісанае св. Лукою спатканне Уваскрослага з вучнямі, якія ішлі ў невялікую мясцовасць пад Ерузалемам.

Гэта надзвычай павучальная гісторыя пра тое, як цяжка распазнаць Бога, які амаль што дакранаецца да нас на нашых жыццёвых дарогах. Вучні глядзяць на Езуса, слухаюць Яго тлумачэнне Святога Пісання, але не пазнаюць Яго. Каб пазналі Яго, трэба было, каб Ён "узяў хлеб, паламаў і даваў ім". "Ламанне хлеба" (так першыя хрысціяне называлі Святую Імшу) адкрывае вочы на Бога. Каб "пазнаць Езуса", трэба з гэтым Езусам сядаць за стол, а значыць, трэба прыходзіць да "Крыніцы". Тады мы маем шанец адкрыць для сябе, як калісьці Каханоўскі, што "ўсюды Ты ёсць".

Не здзіўляйцеся, што Касцёл раўніва аберагае Эўхарыстыю. Бо Эўхарыстыя таксама раўніва аберагае Касцёл. Яна — яго жывое сэрца.

***Пераклад К.Л.***



Кс. Эдвард СТАНЕК

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## ТРЭЦЯЯ ЗАПАВЕДЗЬ

## Нядзеля — святы дзень

Пан Бог, ствараючы чалавека на Зямлі, ведаў, што ён так зацікавіцца багаццем часовага свету, што не будзе мець часу на спатканне з Створцам. Багацце зямлі — велізарнае, і мажлівасці творчай працы чалавека такія ж вялікія. Ён можа так захапіцца, так заняцца зямным клопатам, што яму не хопіць часу, каб узняць галаву і заўважыць іншы свет, іншыя каштоўнасці, якія Бог падрыхтаваў для яго. Таму з самага пачатку Бог ясна паставіў умову: шэсць дзён тваіх, займіся зямлёю, а сёмы дзень Мой, і гэты дзень Я прызначаю для сустрэчы з табою.

Вопыт паказвае, як дакладна Бог адчуў небяспеку, што пагражае чалавеку, бо толькі пры гэтай адной адзінай запаведзі Ён ужыў слова "Памятай".

"Памятай, каб дзень святы святкаваў", — нагадвае Бог чалавеку. Гэта вельмі важны напамінак. Нам часам здаецца, што на апошнім судзе можна будзе апраўдацца перад Богам: маўляў, я не меў часу на рэлігійнае жыццё, не меў часу спаткацца з Табою. Не выбіраймася з такім апраўданнем, бо тады Бог нас запытае: як гэта не меў часу? Адзін дзень у тыдні быў Мой, а калі табе не хапала часу, значыць, ты ўкраў у Мяне гэты дзень. Наша апраўданне зменіцца абвінавачваннем. Адзін дзень у тыдні з'яўляецца Божым днём. Шэсць дзён — нашых, а адзін належыць Богу. Бог у гэты дзень не толькі хоча з намі сустрэцца, але Ён хоча, каб мы адпачылі. Паколькі праца звязана з багаццем гэтай зямлі, то Бог кажа: вымый рукі, чыста апраніся, гэта павінен быць святочны адпачынак, Маё спатканне з табою не перашкодзіць твайму адпачынку. Бог клапоціцца пра чалавека, бо без адпачынку цяжка думаць пра шчасце ў жыцці.

Чалавек хоча адпачыць. Адпачынак — прыемны. Праца — цяжкая. Гэта запаведзь, якую адносна лёгка захоўваць. Менавіта таму Бог учыніў яе паказчыкам рэлігійнага жыцця.

Чытаючы Стары Запавет, мы часта сустракаем надзвычай моцныя словы прарокаў, якія абараняюць шабат, дзень Панскі. Калі гэты дзень чалавек забярэ ў Бога і выкарыстае для сябе, тады накліча на сябе праклянце, якое будзе ўплываць на ўсё яго жыццё. У Старым Запавеце жыдоў, якія не захоўвалі шабату, каралі смерцю.

Бог сказаў: "Памятай, каб дзень святы святкаваў". Такім чынам Ён заклікаў клапаціцца пра святасць Божага дня. Гэты дзень не можа быць свецкі. Мы не заўсёды памятаем, што той самы злы ўчынак, здзейснены ў нядзелю, з'яўляецца цяжэйшым грахом, чым той, які быў здзейснены на працягу тыдня. Бо ён — не толькі грэх, але і знявага святога дня. Гэта тая веліч Божага дня, пра якую мы не заўсёды памятаем. Калі Бог кажа: "Памятай, каб дзень святы святкаваў", то Ён думае не толькі пра ўстрыманне ад працы. Бог дбае пра тое, каб чалавек, свята перажываючы гэты адзін дзень у тыдні, асвяціў самога сябе. Тут мы маем дачыненне са зваротнаю сувяззю. Калі чалавек дбае пра тое, каб дзень Панскі быў святы, то тады Пан асвячае чалавека. Ваша прысутнасць у нядзелю ў святыні сведчыць пра ваш клопат, каб гэты дзень, дзень Панскі, быў менавіта святым днём. Мы прыходзім да Бога — крыніцы святасці.

### Удзел у Святой Імшы

У нашых развагах над трэцяю запаведдзю Дэкалогу я хацеў бы спыніцца над абавязкам удзелу ў Св. Імшы ў дзень Панскі, г.зн. над тым элементам, які найбольш поўна асвячае нядзелю. (...) Усё часцей мы сустракаем людзей ахрышчаных, нават тых, што былі ў Першай св. Камуніі, якія дабравольна адмаўляюцца ўдзельнічаць у Св. Імшы ў нядзелю. Гэта праяўленне не толькі занядбанага імі абавязку, але і выразны знак аслаблення веры. Абавязак удзелу ў Св. Імшы — гэта абавязак сумлення католіка. Дабравольнае занядбанне ўдзелу ў Св. Імшы ў нядзелю — смяротны грэх, ён выклікае зрыў кантакту з Богам.

Частка тых людзей, што не ходзяць у нядзелю ў касцёл, нават не спрабуе апраўдацца, лічачы, што гэта іх справа. Яны найчасцей сцвярджаюць, што наведванне касцёла нічога ім не дае. Другая частка яшчэ спрабуе апраўдацца перад сабою, перад блізкімі, перад святаром.

Але іх апраўданні вельмі мізэрныя ў параўнанні з веліччу справы, якой гэта датычыцць. Гэтыя людзі ўжо ступілі на шлях страты веры. Учора я размаўляў з жанчынаю, якая спыніла мяне і запытала, ці абавязана яна, будучы на бальнічным, ісці ў нядзелю на Св. Імшу. Я спытаў у яе: "Адкуль Вы цяпер вяртаецеся?" Яна адказала, што была ў сяброўкі на імянінах... Калі можна пайсці да сяброўкі на іменіны, то чаму нельга прыйсці да стала, які ў святы дзень падрыхтаваў Бог? Такіх апраўданняў у штодзённым жыцці сустракаецца шмат: адзін не мае адпаведнага абутку, другі — убрання, у трэцяга — насмарк... Варта глянуць, з-за якіх прычынаў людзі найчасцей ігнаруюць Св. Імшу. Выгодны адпачынак у ложку, тэлевізар, экскурсія, спартыўнае мерапрыемства, нечаканыя госці. Для іх усё тое важнейшае, чым удзел у Св. Імшы, але гэта знак, што вера іх слабне.

Я кажу пра гэта, каб адкрыць вам вочы на сур'ёзную небяспеку, у якой мы знаходзімся. Штодзённыя сустрэчы з людзьмі, якія трацяць веру, пагражаюць нашай веры. Колькі ж болю перажывае бацька ці маці, назіраючы, як іх падрастаючае дзіця, выхаванае ў рэлігійным духу, ігнаруе нядзельную Св. Імшу. Усё часцей мы бачым падобныя драмы ў сем'ях, у якіх адзін з сужонкаў не ходзіць у касцёл, а другі — ходзіць. Часта няверуючы перацягвае на свой бок веруючага. Пасля двух-трох гадоў мы ўжо маем дачыненне з сям'ёю, якая не практыкуе веры. Бязвер'е заразлівае. Трэба ўбачыць увесь гэты працэс ляіцызацыі, у якім удзельнічае наша грамадства, і трэба заняць у адносінах да яго рашучую пазіцыю.

Перадусім не трэба здзіўляцца. Людзі адыходзілі ад веры, адыходзяць і будуць адыходзіць. Улічваючы чалавечую слабасць, з'ява гэта ў рэлігійным жыцці даволі частая. Веру можна страціць. Калі чалавек траціць веру, то тады няма чаго прыходзіць у касцёл. Для такога чалавека слова "Святы" не мае ніякага значэння. "Святы дзень" — для яго пусты выраз. Калі хтосьці шукае веры і хацеў бы паверыць, то прыходзіць у

касцёл, каб сустрэцца з супольнасцю веруючых людзей, каб сярод іх знайсці скарб, якога шукае.

Але калі чалавек не шукае веры, то ён не прыйдзе. Не трэба таксама нікога змушаць, каб ішоў у касцёл. Змушаная малітва нямілая Пану Богу. Праўда, бацькі павінны вадзіць сваё дзіця ў касцёл увесь той час, які яно знаходзіцца пад іх апекаю, але ніколі не павінны рабіць гэтага насільна. Калі ж чалавек ужо дарослы, то няхай ён сам бярэ за сябе поўную адказнасць. І, барані Божа, нельга ўчыняць скандалу з-за таго, што хтосьці не ідзе на Св. Імшу. Гаворка пра тое, каб да яго граху не дадаваць яшчэ і нашай знерваванасці. Трэба за такога чалавека паваліцца і гэта ўсё, што мы можам зрабіць.

Урэшце, трэцяе: трэба ўсвядоміць сабе, што няверуючы чалавек з'ўляецца пагрозаю для нашай веры і ў такой сітуацыі трэба зрабіць усё, каб наша вера не толькі не была праз яго знішчана (бо часта з няверуючым чалавекам даводзіцца жыць пад адным дахам), але каб яна атрымала перамогу. Веруючы чалавек мацнейшы за таго, хто не мае веры, калі гэта вера жывая, то магчыма перамога.

Варта пры гэтым памятаць, што любая пагроза павінна набліжаць хрысціянаў да Бога, а не аддаляць ад Яго. Гэты зварот да Бога з'яўляецца доказам сапраўднасці веры. Вернік у момант небяспекі звяртаецца да Бога, і праз гэта яго вера ўзрастае, умацоўваецца. У гэтым кантэксце вы можа лепш зразумееце, што тут гаворка не ідзе толькі пра абавязак удзелу ў Св. Імшы ў дзень Панскі, гаворка тут ідзе пра галоўны скарб, пра нашу веру. Ваша прысутнасць у святыні — публічнае вызнаванне веры. Не толькі вызнаванне, гэта знак клопату пра тое, каб ваша вера ўзрастала. Гэта менавіта тая вялікая каштоўнасць святога дня, дня Панскага. Наш гадзінны побыт у касцёле — знак клопату пра тое, каб асвяціць сябе, каб асвяціць увесь тыдзень, які мы маем перад сабою. Таму Касцёл, устанаўліваючы сваю запаведзь "У нядзелю і святы ў Св. Імшы ўдзельнічаць", меў на ўвазе захаванне нашай веры. У той рэчаіснасці, у якой выпадае нам жыць, трэба сабе ўсвядоміць, што ўсё залежыць ад нашай індывідуальнай пазіцыі, ад клопату пра паглыбленне веры, ад паўторнага адкрыцця багацця, якое дае нам удзел у Св. Імшы. Нават тады, калі б людзі вакол нас далёка адышлі ад Бога, мы, ведаючы, які гэта скарб, ніколі ад Яго не адыдзем.

## Нядзельны адпачынак

У нашых развагах над трэцяю запаведдзю я хацеў бы спыніцца на самім адпачынку. Чалавек не здолее жыць на зямлі не адпачываючы. Адпачынак з'яўляецца часткаю нашага жыцця. Суткі дзеляцца на гадзіны працы днём і на час адпачынку ўночы. Такі натуральны рытм чалавека. Аднак Бог палічыў, што адпачынку ўночы замала і сёмы дзень, які пакінуў для сябе, прызначыў для нашага адпачынку.

Трэба заўважыць адну важную ісціну. Мы жывем у той момант гісторыі чалавецтва, калі ўпершыню чалавек пагардліва паставіўся да адпачынку. Ніколі ў гісторыі не было такога грэбавання адпачынкам. Гэтаму паспрыяла шмат прычынаў. Звярну ўвагу толькі на дзве.

Сканструяванне машыны. Пакуль чалавек працаваў з цяглаваю жывёлаю, ён разам з ёю адпачываў. Бо для таго, каб жывёла магла быць эканамічна працаздольнаю сілаю, яна павінна адпачываць. Часта чалавек, які карыстаўся гэтаю жывёлаю, хацеў бы працаваць, але, клапоцячыся пра каня, ён павінен быў разам з ім адпачыць. Машыне адпачынак не патрэбны. Наадварот, калі машына не працуе, яна становіцца неэканамічнаю. Машына толькі тады на сто працэнтаў прадуктыўная, калі яна бесперапынна працуе. Яна можа працаваць дваццаць чатыры гадзіны ў суткі. У той момант, калі чалавек стаў пры машыне, яна пачала паглынаць ягоны адпачынак, а разам з адпачынкам паглынаць чалавека.

Вынаходніцтва электрычнасці дало магчымасць працаваць ноччу. Перад тым не было электрычнага святла. Зайшло сонца — прыходзіў час адпачынку. Цяпер можна працаваць усю ноч. З пункту погляду псіхічнага здароўя вядома, што праца ўночы патрабуе нашмат больш высілкаў, чым на працягу дня і значна хутчэй нішчыць чалавека.

Ужо гэтыя два элементы цывілізацыі нашага стагоддзя — сканструяванне машыны і вынаходніцтва электрычнасці — стварылі пагрозу для адпачынку. Але выразным паказчыкам грэбавання адпачынкам з'яўляецца тэндэнцыя да працы ў дзень Панскі. Можна спрачацца, што Бог урэшце не загадваў адпачываць ноччу. Але Бог сказаў: "Памятай, каб дзень сёмы святкаваў". Калі чалавек пагарджае гэтым наказам, то сведчыць пра тое, што не заўважае каштоўнасці адпачынку.

З чыста эканамічнага пункту погляду трэба заўважыць адну цікавую з'яву. У высокаразвітых краінах назіраюцца дзве розныя пазіцыі. У адных ігнаруецца дзень Панскі, нядзеля прызначаецца для працы, у іншых — шануецца Божая запаведзь. І здавалася б, што дабрабыт краінаў, у якіх людзі працуюць сем дзён у тыдзень, павінен быць значна вышэйшым, чым у тых, якія захоўваюць дзень Панскі і ў нядзелю не працуюць. Тым часам усё зусім наадварот. У тых краінах, дзе праігнараваны адпачынак, назіраецца поўны эканамічны крызіс. А ў краінах, дзе не толькі шануецца дзень Панскі, але дададзены другі вольны дзень — субота (нават думаюць, ці не дадаць яшчэ трэці) — там эканамічны ўзровень незвычайна высокі. Чаму? Адказ просты. Справа тут датычыць не столькі адпачынку, колькі клопату пра чалавека.

Павага да адпачынку — гэта заўсёды павага да чалавека. Калі Бог кажа: адпачні сёмы дзень, то робіць Ён гэта, клапоцячыся пра наша дабро, пра наша шчасце. Гэта жэст Яго любові. Па чым мы пазнаем, што хтосьці нас любіць? Ці не па тым, як клапоціцца пра наша здароўе, пра наш адпачынак? Па чым жонка пазнае, што муж яе кахае? Ці не па тым, што імгненна заўважае яе стомленасць, дбае пра тое, каб яна адпачыла? Калі ж муж не бачыць яе стомы, не клапоціцца пра яе адпачынак — гэта знак таго, што каханне яго памірае.

Бог клапоціцца пра наш адпачынак. Гэта знак Яго любові. Калі мы не адкрыем для сябе, што клопат пра адпачынак з'яўляецца клопатам пра чалавека, то можам вельмі многае прайграць. Асабіста я лічу, што гэта адна з самых сур'ёзных памылак нашага пакалення, плён якой мы будзем пажынаць у бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Расце лічба хворых людзей, якія церпяць ад ператомленасці, перапрацаванасці, загнанасці, якія не ўмеюць адпачываць. І гэтыя людзі спакваля ператвораць наш свет у агромністы шпіталь, у якім самым вялікім аддзяленнем будзе псіхіятрычна-неўралагічнае. Слабасць сённяшняга чалавека — гэта ў вялікай ступені вынік недаацэнкі адпачынку.

Прасем Пана Бога, каб мы адкрылі Яго вялікую любоў, закладзеную ў трэцяй запаведзі. Гэта не абавязак, не цяжар; гэта прывілея, гэта праяўленне клопату Бога пра нас. За гэтую запаведзь мы павінны ў кожную нядзелю, адразу пасля абуджэння, пацалаваць у руку Айца Нябеснага, падзякаваць Яму, што дае нам дзень, у які мы можам адпачыць.

*Працяг будзе.*

*Пачатак у №№1-2, 3-4 за 1998г.*

***Пераклад Крыстыны Лялько***



# Чаму трэба ўдзельнічаць у Святой Імшы?

*Нетэалагічна пра тое, чым з'яўляецца Эўхарыстыя*

Нядзельная Святая Імша — гэта ўлюбёнае месца Пана Бога, калі Ён жадае разам з намі сесці за святочны стол, каб успомніць і ўрачыста перажыць тую любоў, якая нас яднае. У часе такога спаткання Пан Езус як быццам кажа нам узрушана: "Узгадай той дзень, калі Я памёр за цябе на крыжы, каб потым паўстаць з мёртвых і адкрыць перад табою сваё сэрца, з якога плыве вечнае жыццё..."

Першым крокам да глыбейшага перажывання і разумення Святой Імшы з'яўляецца згода прысутнічаць на ёй — адказ на запрашэнне Пана.

**А. *Эўхарыстыя — гэта спатканне з Богам***, якога мы любім. Пан Бог так любіць нас, што запрашае тых, хто аддае Яму свае сэрцы, у вызначанае месца. Такім месцам, куды Бог запрашае нас на спатканне, з'яўляецца Святая Імша.

Многія кажуць, што не абавязкова хадзіць на Імшу, дзе збіраецца маса народу, арганіст фальшыва іграе, хор не лепшым чынам спявае, а ксёндз гаворыць тое, што і так зразумела. Маўляў, не абавязкова хадзіць на Імшу, таму што Бога можна спаткаць у любым месцы.

Гэта сапраўды так — Бога можна спаткаць усюды. Калісьці святы Аўгустын спяваў псальм у прыбіральні, чым вельмі ўразіў сваю набожную маці. Бога можна спаткаць усюды, але нельга адмаўляцца ад тых асаблівых месцаў, дзе сустрэча з Панам Богам мае выключнае значэнне. Пан Бог запрашае нас у вызначанае Ім самім месца. І калі мы адмаўляемся, то марнуем тым самым цудоўную магчымасць ***упрыгожыць нашу штодзённую сувязь з Богам***. Тады мы самі становімся вінаватымі, што наша жыццё робіцца шэрым і нецікавым, а яго бясколерная будзённасць поўная руціны і пустэчы.

**Б. *Эўхарыстыя — гэта сяброўская размова з Панам Богам***, у якой вялікую ролю адыгрывае ***ўменне слухаць***. Калі некаму сумна на Святой Імшы, то гэта адбываецца таму, што ў яго заткнутыя вушы на тое, што Бог гаворыць яму ў сваім слове і за што Касцёл моліцца літургічнымі тэкстамі.

Змест тэкстаў, якія чытаюцца на Імшы, мае вялікае значэнне. Усе ***тэксты Святога Пісання*** аб'ядноўвае адна тэма, якая развіваецца нібы ***прыгожы музычны твор***. Тон Божай мелодыі задае фрагмент са Старога Запавету. Псальм падхоплівае яго і развівае, кульмінацыя ж гучання адбываецца ў Евангеллі. Нават калі казанне не заўсёды дакладна ўводзіць нас у пададзеную тэму, то і тады няма аніякіх перашкодаў, каб ахапіць яе ўласным сэрцам.

Бог, які навучае нас сваім Словам, трымаецца так, як той, хто ***ўмела ўводзіць людзей у шырокую галіну навукі. Не гаворыць усяго адразу***, не высыпае на маленькую градку цэлы мех зерня, але падкідвае нам малыя зернейкі сваёй мудрасці. У літургіі Святой Імшы Ён нібы гаворыць нам:





"Сёння падумаем і паразмаўляем пра цярпенне. У наступны ж раз хачу вам сказаць штосьці пра цярплівасць..."

Сапраўды, дружа, варта, суцішыўшыся сэрцам, услухацца ў малітвы пад час Эўхарыстыі. Самыя старажытныя з іх маюць свае карані ў рэлігіі нашых старэйшых братоў — габрэяў, многія сягаюць да часу заснавання Касцёла, яго першых супольнасцяў. Але ўсе яны з'яўляюцца запісам глыбока зразумелай таямніцы веры ў Бога, які нас любіць.

Размова сяброў ніколі не бывае маналогам. У часе Святой Імшы адбываецца амаль што ***няспынны дыялог***. Напрыклад, "Пан з вамі" — "І з духам тваім". У малітве Эўхарыстычнай гэты дыялог яшчэ больш пашыраны.

Дыялог прысутнічае і ў часе чытання Божага Слова, калі мы адказваем псальмам на тое, што пачулі ў фрагменце Старога Запавету (лацінскае "responsere" азначае "адказваць", адсюль і назва — "рэспансарыйны псальм").

Найпрыгажэйшы наш адказ, які мы даем Богу ў нашай з Ім размове, — гэта "Амэн", вымаўленае ў прысутнасці Хрыста, што ўваходзіць у нашыя сэрцы ў святой Камуніі: "Цела Хрыста" — "Амэн".

Вельмі часта размовы паміж людзьмі прыводзяць да падзелу і канфліктаў. Размова ж з Богам, якая адбываецца ў часе Святой Імшы, завяршаецца глыбокім паяднаннем і блізкасцю.

**В. *Эўхарыстыя — Божае лякарства.*** Гэта параўнанне падказаў мне адзін з айцоў Касцёла — святы Аўгустын з Гіпоны, які ў сваім казанні да новаахрышчаных, казаў: "Зразумейце, што азначае гэты вялікі і Божы Сакрамэнт — цудоўнае і чыстае лякарства".

Калі збіраешся на Эўхарыстыю, уяві сабе, што ідзеш туды, дзе будзе гаючая прысутнасць Пана. Яго добрае Слова супакойвае нас, вяртае нам спакой, радасць і надзею. У часе Святой Імшы мы трываем на малітве разам са Святым Духам, які нас яднае, лечыць ад падзелаў, нязгоды, ізаляцыі. Нарэшце, Цела Хрыста — Найсвяцейшы Сакрамэнт — лечыць нас ад няверы і пачуцця аддаленасці ад Бога.

Удумайся ў ***прыпавесць пра міласэрнага самарытаніна*** як пра сустрэчу са Збаўцам, што прыходзіць да нас у часе Святой Імшы. Герой прыпавесці віном і алівай абмывае чалавека, якога пабілі бандыты. (Віно і аліва выконвалі ў той час ролю дэзінфекцыйных лекаў.) Міласэрны самарытанін — вобраз самога Езуса, які ўжо не з'яўляецца віном, але каштоўным лякарствам, што лечыць сваёю крывёю (пад выглядам віна). Ён лечыць нашыя раны...

Менавіта мы з'яўляемся тымі людзьмі, якіх пабілі бандыты. Мы ледзьве трымаемся на нагах па дарозе да Бога Любові, збітыя і ссінячаныя ўласнымі ўпадкамі. Нас спапяляе гарачка, выкліканая рознымі кепскімі нашымі схільнасцямі: адзін, напрыклад, прызвычаіўся маніць, другі не здольны ўтаймаваць сваю злосць, трэцяга атручваюць хваравітыя амбіцыі. Усё гэта азначае ўнутраную спустошанасць, прычынай якой з'яўляецца грэх.

Часта нашыя крокі па жыцці няўпэўненыя. Мы ашаломленыя рознымі меркаваннямі і пачынаем блытацца ў вельмі сур'ёзных панятцях: што з'яўляецца сапраўднай праўдай, дабром? Ці можна ўвогуле годна жыць і быць верным навучцы Настаўніка?

Нашы сэрцы не ў стане біцца ў роўным, спакойным рытме любові да Пана, бо яны хворыя на недавер да яго Любові. Цяжка ўнікнуць гэтай хваробы, жывучы сярод людзей, для якіх Яго імя чужое, выклікае ў іх адно пачуццё раўнадушша альбо і супрацьстаяння. Такі наш стан, стан людзей, пабітых бандытамі. Мы ляжым пры дарозе і нямногія з тых, што ідуць па ёй, маюць ахвоту дапамагчы нам.

Колькі разоў мы збіраемся на Эўхарыстыі, столькі разоў можа здзяйсніцца аздараўленне нашых думак, жаданняў, нашай волі і веры. Бо Ён сам убачыў нас, паспачуваў, падышоў, "прыняўшы паставу слугі", і агарнуў сваёй блізкасцю. На Святой Імшы нас атуляе Яго клопат. Мы адчуваем: Ён блізка! Мы чуем Яго Слова! І таму паступова можам атрымліваць аздараўленне. Мы паволі даходзім да сябе, пачынаем бачыць, чуць, адчуваць і любіць Бога. Хіба ж можа застацца хвароба нашай няверы ў Яго бясконцую Любоў, калі Ён сам аддае сябе ў нашыя рукі? Ці можам мы пасля гэтага не палюбіць нявіннае Ягнё? Хіба можа і надалей знішчаць нас хвароба падазрэнняў, што Бог хоча нас груба падпарадкаваць сабе, калі Ён сам ідзе да нас у якасці аздараўляльнага спажытку?

Святая Імша — вялікае, Божае лякарства. Гэта час нашага знаходжання ў прысутнасці Пана. У прысутнасці, якая аздараўляе і вяртае нам, паміраючым грэшнікам, поўню жыцця. ***Бо Лекар патрэбны не здаровым, але хворым.***

Артыкул падрыхтаваны паводле кнігі Войцеха Енджэеўскага "Захапляльнае запрашэнне".

*Працяг будзе.*

*Пачатак у № 3–4 за 1998 г.*

*А.С.*

*"Прагну набліжаць вас усё больш да Езуса і да Яго зраненага Сэрца, каб былі здольныя зразумець любоў без межаў"*

(З пасланьня Маці Божай з Меджугор'я 25.11.1995 г.)

# СЭРЦА ЕЗУСА: «Вучыцеся ў Мяне!..»

Набажэнства да Сэрца Езуса мае вельмі даўнюю гісторыю. Упершыню яно было аб'яўлена св. Гертрудзе ў 1281 г., але распаўсюдзілася ў Францыі, бо менавіта там падзьмуў сухі вецер янсанізму, які аддаляў людзей ад непрыступнага і суровага Бога. Нястомны місіянер св. Ян Эўдэс распачаў у першай палове XVII ст. публічныя набажэнствы да невычэрпнай крыніцы любові Сэрца Езуса і Марыі, што могуць растапіць лёд ганарлівых душаў, у якіх вымерла любоў.

Потым, у 1672 г., Сэрца Езуса адкрылася перад пакорнаю сястрою візіткаю св. Марыяю Малгажатаю Alacoquw, якая знайшла ў асобе свайго спаведніка св. Клаўдзія дэ ля Калёмб'еры зразуменне і падтрымку ў пашырэнні гэтага набажэнства. "*Вось Сэрца, якое так моцна палюбіла людзей, а знаходзіць толькі абыякавасць і няўдзячнасць*, — пачула аднойчы св. Марыя Малгажата. — *Маё Сэрца будзе шчодра разліваць сваю любоў на тых, хто Мяне ўшаноўвае.* — Сказаў крыху пазней Хрыстус гэтай святой. — *У каштоўных скарбах, якія Я адкрываю табе, ёсць неабходныя ласкі, каб вызваліць людзей з прадоння загубы*". І тут Пан Езус даў шырока вядомыя абяцанні, сярод якіх і гэтае пра *9 першых пятніцаў месяца*.

Натхненне да новага набажэнства ахапіла св. Міхала з Гарыкоітс (1797 — 1863), актыўнага баскійскага святара, які меў асяродак сваёй надзвычай плённай душпастырскай працы недалёка ад Люрда — санктуарый Маці Божай з Бэтхарам. Між іншым, ён быў таксама даверанаю асобаю св. Бернадэты. У яго была наступная праграма: "*Вось прыходжу, Божа, каб выконваць Тваю волю, без агаворак, без прамаруджвання, без умоваў*". Ён склаў сапраўдную "праграму ўшанавання Найсвяцейшага Сэрца". Абапіраючыся на яе, заснаваў супольнасць святароў Найсвяцейшага Сэрца. У сваім вучэнні ён дае нам для наследвання і для малітвы цноты Хрыстовага Сэрца.

**1. "Вось прыходжу, Божа, каб выконваць Тваю волю!"** — гэта несупыннае жаданне Сэрца Пана Езуса з першай хвіліны Яго Уцелаўлення. У гэтай скіраванасці і поўнай пакоры — падабенства Езуса і Марыі. Езус сказаў: "*Вось я прыходжу...*", Маці Божая сказала: "*Вось я, Слуга Панская!*" Гэта тая ж самая пакора, любоў без межаў, тое самае жаданне і радасць аддання сябе іншым. "Нельга зразумець глыбіні любові Хрыстовага Сэрца, — сцвярджае Пій XII у энцыкліцы пра Найсвяцейшае Сэрца *Haurietis aquas*, — не ўглядваючыся ў Беззаганнае Сэрца Марыі, у якім Яно сфармавалася і ад якога атрымала ўсе чалавечыя рысы".

"Праўда сэрца прыносіць святло душы... Вось чаму Бог хоча называцца... ...**Богам нашых сэрцаў**, а не нашага духу, "**Бог — скала майго сэрца**" (Пс 73, 26). Ён як бы хоча даць нам зразумець, што ў Яго вачах самыя прыгожыя якасці духу — нішто без пакоры і мяккасці сэрца.







Гэтае набажэнства ўкараняецца ў сэрцах, у якіх жыве пачуццё ўласнай мізэрнасці і Божай любові... Каб здабыць гэтую любоў і пакору, мы павінны быць не столькі людзьмі, якія моляцца, колькі — пастаяннаю малітваю".

**2. "Вучыцеся ў Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам"** (пар. Мц 11, 29).

"Сапраўдная любоў адначасова лагодная і моцная; яна ўмее спалучаць любоў да асобы з нянавісцю да граху. Яна — поўная зразумення і не ўдзельнічае ў зле... Які ж яскравы прыклад для нас — адносіны Хрыста да блудніцы альбо да самарытанкі!.. І якая ж павага, якая ж дабрыня да людзей, калі Ён разам з тым знішчаў зло ў іхніх сэрцах!"

**3. "Дух пакоры і звароту да Бога".** "Тады Бог не дазволіць, каб мы сталі ахвярамі ілюзій. Пакора не толькі захоўвае ад ілюзій і ўпадкаў, але можа ўчыніць так, што мы не будзем грашыць... Хто будзе такі ж пакорны, як Марыя, Найсвяцейшая Панна, той будзе без граху, гэтаксама, як Яна. Таму мы павінны імкнуцца, каб здабыць пакору і самаадрачэнне, прагнучы, каб свет нас не бачыў. Наш Пан Езус Хрыстус прынізіўся, бо, будучы Богам, стаўся чалавекам. Склаў Сябе ў ахвяры, кажучы: "*Вось Я, паслухмяны аж да смерці крыжовай*" (Флп 2, 8). Прынізіцца ў сваім "быцці нікім"! Чым больш чалавек губляе самога сябе, тым больш знаходзіць сябе ў Богу. А калі чалавек замест таго, каб самаадрачыся, шукае свае індывідуальнасці, то ён знойдзе ў сабе гэтульні малых бажкоў, якім павінен будзе прысвяціць усяго сябе".

**4. Паслухмянасць** — "Мы павінны верыць, што калі гаворыць кіраўнік альбо адказная асоба, то сам Бог гаворыць праз яго. Збаўца сказаў: "*Хто вас слухае, Мяне слухае*" (Лк 10, 16). На жаль, мы бачым, што нішто так не распаўсюджана ў свеце, як адносіны да Слова і волі Божай нібы да людскога слова і людской волі... А гэта прафанацыя і святатацтва!.."

**5. Адданне сябе** — "Трэба працаваць для Бога радасна, з моцаю, дзень за днём, не гледзячы ані на поспех, ані на будучыню. "*Годзе для кожнага дня свайго ліха*" (Мц 6, 34). Мне даверана заданне, а я пытаю: удасца мне яго выканаць, ці не? Я не павінен ні аб чым турбавацца, аісці з даверам і вераю Абрагама. Я павінен рабіць тое, што кажа мне Бог праз сваіх пасрэднікаў і так, як гэта Ён мне кажа... Усё астатняе — гэта толькі марны клопат, перашкода і спакуса, якім я не павінен паддавацца.

Часта людзі, нават і адукаваныя, кіруючыся добрымі намерамі, робяць сур'ёзныя памылкі, прыносячы шкоду і чынячы перашкоды Касцёлу. Бо гэта дабро, якога прагнуць яны, а не Бог. Людзі засяроджваюцца на справах гэтага свету і дзейнічаюць, абапіраючыся на свае чалавечыя сілы. Ідучы за ўласным духам, яны замяняюць хлеб жыцця пладамі смерці і з'яўляюцца цяжарам для Бога і іншых: "*Бо не той варты, хто сам сябе хваліць, але той, каго хваліць Пан*" (2 Кар 10, 18), менавіта так, як Сэрца Езуса".

Звернемся да Сэрца Езуса, прымаючы Яго заклік да Споведзі і св. Камуніі ў *першыя пятніцы месяца*, з якімі звязаны вялікія абяцанні Хрыста. Сярод іх — абяцанне добрай смерці. Ушаноўвайма Божае Сэрца ў чэрвені, молячыся да Яго каронку і літанію.

*Артыкул падрыхтаваны паводле матэрыялаў газеты* **"Echo Medžiugorja", № 120/58**



# малітвы цудоўныя словы

## Да Маці Божай Нястомнай Дапамогі

*Маці Божая Нястомнай Дапамогі, я шмат пакутую і пакутую доўга.*
*Разам з целам слабне таксама і сіла духа майго, ужо і маліцца не магу.*
*Нішто не прыносіць мне палёгкі.*
*Нават размова з блізкімі і прыяцелямі засмучае мяне.*
*Паволі знікаюць у маім сэрцы адвага і надзея,*
*а іхняе месца займаюць пагроза, боль і сум.*
*На Цябе, о Марыя, ускладаю ўсю сваю надзею.*
*Ты не забываеш пра сваіх дзяцей, якія церпяць пакуты.*
*Падтрымай мяне, Маці Нястомнай Дапамогі.*
*Дай мне сілы, каб я цярпліва прымаў з рук Езуса ўсялякія выпрабаванні.*
*Калі ж гэта не зашкодзіць справе майго збаўлення, то вярні мне здароўе,*
*каб я з радасцю мог праслаўляць Цябе пры жыцці і пасля смерці. Амэн.*

## Да Беззаганнай Панны Марыі
(святога Максіміліяна Марыі Кольбэ)

*Дазволь мне славіць Цябе, Найсвяцейшая Панна.*
*Дазволь славіць Цябе сваімі сіламі.*
*Дазволь, каб я для Цябе і толькі для Цябе жыў,*
*працаваў, цярпеў, аддаў сваё жыццё і памёр.*
*Дазволь, каб я да Цябе цэлы свет прывёў.*
*Дазволь, каб я прычыніўся да яшчэ большага ўсхвалення Цябе.*
*Дазволь, каб я прынёс Табе такую хвалу, якую яшчэ ніхто Табе не прыносіў.*
*Дазволь, каб іншыя пераўзыходзілі мяне, жадаючы ўзвысіць Цябе, а я — іх.*
*Няхай у такім прыгожым спаборніцтве ўзрастае Твая хвала штораз глыбей,*
*штораз хутчэй, штораз мацней, так, як таго прагне Той,*
*хто так цудоўна ўзвысіў Цябе над усімі істотамі.*
*Без параўнання, у адной Табе праславіўся Бог больш,*
*чымсьці ва ўсіх сваіх святых.*
*Для Цябе Бог стварыў свет. Для Цябе Ён і мяне да жыцця паклікаў.*
*Адкуль жа мне такое шчасце?*
*О! Дазволь мне славіць Цябе, Найсвяцейшая Панна!*

## Адданне сябе ва ўладу Маці Божай

*О Пані мая! Маці мая! Цалкам аддаюся Табе і на доказ маёй адданасці прысвячаю Табе сёння мае вочы, вушы, вусны і сэрца. Усяго сябе прысвячаю Табе. А паколькі я цяпер — Твая ўласнасць, о мая Добрая Маці, прашу: сцеражы і аберагай мяне як сваю ўласнасць. Амэн.*





У КОЛЕ СЯМ'І

# ШУКАЦЬ ПАРАТУНКУ



*"Прысягаю любіць, быць верным і... не пакінуць цябе да смерці..."*

Ведаю, дарагія жанчыны, як часта пасля гэтых прыгожых і шчырых слоў вас чакаюць расчараванне, сорам, боль. Кожная з вас ішла да шлюбу з надзеяй, што гэты адзіны і дарагі чалавек будзе на ўсё жыццё надзейнай падтрымкай ва ўсіх цяжкасцях і выпрабаваннях. Некаторыя з вас перажывалі ў маладосці канфлікты з бацькамі, і вам здавалася, што ваш муж, які ў той час зразумеў вас і стаў на ваш бок, і ў далейшым заўсёды будзе разумець вас і, вядома ж, будзе заўсёды на вашым баку. Але атрымалася так, што, выйшаўшы з бацькоўскай сям'і і ўтварыўшы сваю, вы не толькі не пазбавіліся канфліктаў, але набылі іх яшчэ болей.

Некаторыя з вас, баючыся страціць сваю закаханасць (але яшчэ не любоў!), згадзіліся на інтымныя адносіны да таго, як паядналіся духоўна. Гэта змусіла вас апусціцца ў багну граху і ўсё больш і больш грэзнуць у ёй. Пасля быў шлюб, прысяга, але... але рана засталася. І цяпер у душы альбо і на словах вы вінаваціце сваіх мужоў. Маўляў, каб не ты, то я выйшла б замуж у чысціні, а цяпер вось так страшна мне пакаяцца, прызнацца перад Богам у граху.

А хтосьці з вас выходзіў замуж, загадзя ведаючы, што не кахае таго, з кім звязвае сваё жыццё. Можна сказаць, што замуж ішла не за чалавека, але за ягоныя грошы, становішча ў грамадстве і г.д. Тады думалася, што калі ажэнішча, то і зменішча. Але ж супраць гэтай прыказкі ёсць іншыя. Напрыклад: "Чаму Яська навучыўся, тое робіць Ян".

Можна было б яшчэ доўга пералічваць прычыны сямейных бедаў і трагедый. Вельмі шмат вы іх ведаеце і самі. Але, апрача вядомых вам, ці задумваліся вы і яшчэ над адной прычынай? А менавіта: ваша цяперашняя бяда, бяда замужняй жанчыны ў тым, што з юначых гадоў вы мала задумваліся над тым, як гэта важна — заўсёды заставацца вернай Богу. Бо менавіта з гэтай вернасці вынікае і пазнейшая вернасць дадзенаму слову, вернасць мужу, сям'і, сваім абавязкам у выхаванні дзяцей.

Здавалася б, усё так проста: быць вернай Богу, быць вернай таму, што спазнала, рыхтуючыся да сваёй Першай святой Камуніі, таму, што чула потым ад святара ў часе казанняў, асабістых размоў, на споведзі. Вернасць Богу — простая праўда. Яна — водгук на Божую праўду. Але так ужо атрымліваецца, што менавіта пра гэтую простую і ясную праўду вы, дарагія жанчыны, часта забываеце. Можа таму, што ў маладосці ўсе думкі паглынаюцца каханнем, і ў гэтым віры кахання надта ж ужо лёгка можна забыць пра найвышэйшую любоў — пра любоў да Пана Бога. На жаль, вы так часта забываеце, што толькі Божым шляхам чысціні можна дайсці да сапраўднай крыніцы шчасця з другім чалавекам — вашым будучым мужам.

Таму і атрымліваецца потым, што калі жыццё ўваходзіць у перыяд восені, то, азірнуўшыся назад, вы зведваеце шмат болю. Бо за вашымі плячыма

засталося так шмат памылак, нявернасці свайму слову, абяцанням, абавязкам. І як жа балюча тады ўсведамляць, што ўсё магло быць інакш, прыгажэй, чысцей. Таму, каб не было позна, каб не зведалі вы ажно так шмат расчараванняў, можа, трэба раней задумацца над гэтымі праблемамі? Ад жанчын вельмі шмат залежыць. Часта гэта — і спакой у сям'і, і радасць, і агульнае шчасце. Як жа зрабіць так, каб сям'я ўсё гэта атрымала? Часта жанчына, прысягнуўшы мужу вернасць, застаецца вернаю гэтаму слову ўсё сваё жыццё. Што, здавалася б, можа быць дрэннага ў тым, што жанчына імкнецца быць цалкам аддадай мужу, цалкам прысвяціць яму сваё жыццё, быць прыгожай толькі для яго і г.д. Але і ў гэтым ёсць небяспека. Бо зноў жа: вернасць і адданасць другому чалавеку толькі тады сапраўдная, калі яна асвечана супольнай любоўю да Бога. Вернасць жонкі мужу і наадварот — гэта супольная дарога ў неба. Наколькі б паменела ў нашых сем'ях праблемаў, калі б муж і жонка не парывалі сваёй лучнасці з Богам!

Калі ж у адносінах паміж мужам і жонкай ёсць праблемы, то яны абавязкова цяжкім грузам лягуць на плечы іхніх дзяцей. Як часта можна сустрэць сем'і, дзе "няма часу выхоўваць дзяцей". Іх проста спіхваюць на яслі, садок, школу... Многія разумеюць, наколькі недасканалае часам там выхаванне, і тым не менш... Няма часу. Іншы раз гэты час, на жаль, знойдзецца потым, калі бацькі пачнуць бедаваць над тым, што натварыў іхні сын, альбо над тым, што дачка не апраўдала іхніх спадзяванняў. Такое бывае даволі часта. І тады так балюча ўсведамляць, што прычынай болю, сораму з'яўляешся таксама і ты. Бо ў свой час ты сама шукала шмат прычынаў, якія перашкаджалі табе разам з мужам і дзецьмі прыйсці ў касцёл, памаліцца, разам святкаваць святы, разам перажываць пост...

Безбацькоўшчына... Гэтая праблема знаёмая многім і многім хлапчукам і дзяўчынкам. Колькі іх — сіротаў — у дзіцячых дамах, прытулках! На старонках газет усё часцей пачынаюць з'яўляцца фотаздымкі дзесяцігадовых альбо дванаццацігадовых бомжаў. А колькі іх жыве з маці, а бацька невядома дзе? Напэўна ж, круглыя сіроты зайздросцяць тым, у каго ёсць маці, калі нават і бацькі няма. Але ж мы, дарослыя, добра разумеем, што вартыя спачування і адны, і другія, і трэція. Цяпер безбацькоўшчына вельмі пашырылася ў сем'ях вайскоўцаў, калі бацька, пакінуўшы ў Беларусі сям'ю, паехаў некуды ў глыбінку Расіі даслужваць да пенсіі. Пенсію ён, можа, і заслужыць, а вось сям'ю захавае не заўсёды. Безбацькоўшчына развітая і ў тых сем'ях, дзе бацькі часта бываюць у камандзіроўках. Год за годам яны адвыкаюць ад сям'і, яе праблемы, цяжкасці, беды і нават радасці ўжо перастаюць хваляваць і тады... Тады — развод.

Што ж рабіць, каб нашыя сем'і не распадаліся з катастрафічнай хуткасцю, але ўмацоўваліся? Адказ просты і ясны. Шукаць паратунку і падтрымкі ў Бога. Яму давяраць свае праблемы, свой боль, у Яго прасіць прабачэння за свае здрады, сваю легкаважнасць. І так — дзень за днём. У кожнай жыццёвай сітуацыі. Не трэба замыкацца ў сваіх праблемах, але трэба адкрывацца Богу. Адкрываць сваё сэрца, убіраць Яго праўду, жыць з ёю, не баяцца прыйсці да Яго і ў хвіліны радасці, і ў хвіліны смутку, і тады, калі нас спапяляе сорам. І мы ўбачым, як зменіцца нашае жыццё, як паступова з яго знікнуць шэрыя фарбы, а з'явяцца новыя, прыгажэйшыя і весялейшыя. Пан Бог заўсёды чакае нас, усіх без выключэння. Не будзем жа падманваць Яго спадзяванняў і тым самым знойдзем для сябе вялікую надзею.

*а. Збігнеў Бояр*







# ЦВЁРДЫЯ ПРАВІЛЫ ВЫХАВАННЯ ДЛЯ МАЛАДЫХ БАЦЬКОЎ

**1.** Ніколі не сварыцеся пры дзецях; калі ўзнікнуць непаразуменні, высвятляйце адносіны паміж сабою без сведкаў.

**2.** Ніколі пры дзецях не выгаворвайце адно аднаму і не спрачайцеся, асабліва наконт дзяцей.

**3.** Ніколі не дазваляйце дзецям рабіць тое, што забараніў адзін з бацькоў.

**4.** Ніколі не пасвячайце дзяцей ва ўзаемныя крыўды.

**5.** Ніколі пры дзецях не абвінавачвайце адно аднаго ў сваіх узаемных недахопах і правінах.

**6.** Ніколі не падрывайце павагі і не аслабляйце любові дзіцяці да аднаго з бацькоў.

**7.** Ніколі не гаварыце дзіцяці: "Толькі не кажы гэтага маме" ці "Нічога не кажы бацьку".

**8.** Ніколі не кажыце дзіцяці: "Я раскажу бацьку, які ты быў сёння непаслухмяны".

Калі дзяцей палохаюць бацькам, то як яны могуць потым любіць яго і давяраць яму?

**9.** Ніколі не давайце дзецям неасэнсаваных заданняў. Нельга таксама кожную хвіліну іх змяняць, каб дзіця не заўважыла, што наказы і забароны залежаць выключна ад вашых імгненных настрояў.

**10.** Ніколі не вылучайце аднаго з дзяцей і стаўцеся да кожнага справядліва.

**11.** Не выконвайце ўсе справы за дзяцей, але давайце ім адпаведныя ўзросту заданні і паступова прывучайце да самастойнай дзейнасці.

**12.** Будзьце такімі, якімі б вы хацелі бачыць сваіх дзяцей.

# Пяць прынцыпаў шчасця сям'і з Евангелля святога Лукі

## (Лк 6,36-38)

Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі адгукнуўся на заклік св. апостала Паўла "аднавіць усё ў Хрысце" і імкнецца яго рэалізаваць. Гэтае "аднаўленне" патрабуе кантакту з Хрыстом, між іншым, праз чытанне Святога Пісання. "Няведанне Святога Пісання – гэта і няведанне Хрыста", – заўважаюць Айцы Другога Ватыканскага Сабору і навучаюць, каб вернікі памяталі аб тым, што чытанню Святога Пісання павінна спадарожнічаць малітва, "каб гэтае чытанне было размоваю паміж Богам і чалавекам. Бо "да Яго прамаўляем, калі молімся, і слухаем Яго, калі чытаем Божыя словы" (пар. Дагматычная канстытуцыя аб Божым Аб'яўленні, 25).

Чытаючы Евангелле паводле св. Лукі, даходзім да шостага раздзела. Мы сустракаем Хрыста на малітве пасля спрэчкі з фарысеямі, перад пакліканнем дванаццаці мужчын і стварэннем з іх апостальскай супольнасці. Бачым Яго падчас працы сярод вучняў, сярод здаровых і хворых людзей. Навучанне гэтае чуем, калі спадарожнічае нам Божае благаслаўленне, калі пагроза-перасцярога ці нават праклён: "бяда вам", а таксама абавязак любові да ворагаў і стрыманасці ў асуджэнні бліжніх.

– Сустракаем Пана Езуса падчас поўнай, рознабаковай, вельмі складанай і адказнай дзейнасці: малітва, г.зн. размова з Айцом – стварэнне апостальскай супольнасці – учынак – слова, а ў гэтым усім – любоў, мудрасць і сіла.

– Далучаемся да сведкаў учынкаў і слоў Хрыста. Услухоўваемся ў Яго пяць правілаў (Лк 6,36-38) і робім іх прадметам медытацыі, гэта значыць малітвы, якая заканчваецца пастановамі, што маюць значэнне для кожнага з нас і для нашых сем'яў.

– Чынячы так, аб'яўляем Хрыста сям'і – грамадству як "Божую сілу і Божую мудрасць" і на гэтым этапе гісторыі Касцёла на Беларусі далучаемся да справы Сіноду: "аднаўлення ў Хрысце" сябе, сям'і, грамадства.

У гэтым артыкуле, напісаным паводле публікацыі "Cinque regule di Gesu per fare una famiglia felice", прапаноўваецца праграма духоўнай працы, да якой адзін аднаго заахвочваем.

**Вялікае сэрца**

*"Будзьце ж міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны"*

Езус загадвае табе, каб ты меў міласэрнае сэрца на ўзор Яго Боскага Сэрца, а гэта значыць, што Езус патрабуе ад цябе бязмежнай дабрыні.

Выхоўвай сэрца для дабрыні, прасі Бога кожны дзень аб усё большым разуменні любові.

Змагайся супраць усялякай дробязнасці, якая ёсць у табе: зайздрасці, суровасці, помслівасці, пасрэднасці.

Расплюшч вочы, прыглядайся да кожнага настаўніка дабрыні, якога Пан паставіў побач з табою. Вучыся слухаць, каб узрастала ў дабрыні тваё сэрца.

**Чыстыя думкі**

*"Не асуджайце, і не будзеце асуджаныя"*

Езус просіць цябе кантраляваць свае думкі,

бо любоў бярэ свой пачатак у думках.

Сачы за звычкай навешваць ярлыкі людзям і падазраваць каго-небудзь у чым-небудзь.

Вучыся саромецца бервяна ў сваім воку, калі лічыш, што ведаеш, як выцягнуць парушынку з вока твайго брата.

Своечасова стрымлівай сябе ад лёгкага і паспешлівага суда, каб ён не стаў тваім прысудам.

**Чысты язык**

*"Не асуджайце, і не будзеце асуджаныя"*

Езус патрабуе ад цябе суровага кантролю над словам.

Адзінства найчасцей руйнуецца з прычыны памылковых слоў.

Зло, якое можаш зрабіць словам, – невымернае, а часам таксама і непапраўнае.

Кожную раніцу прысвяці свой язык Пану праз прыняцце Эўхарыстыі і Божага слова.

**Новыя вочы**

*"Прабачайце, і будзе вам прабачана"*

Езус наказвае велікадушна прабачаць; распачынай кожную раніцу твайго дня з новага позірку на сваіх братоў, а перш за ўсё на чалавека, з якім учора было непаразуменне.

Зрабі намаганне, каб глядзець кожную раніцу новымі вачыма на іншых людзей, на сітуацыі, на здарэнні, на знерваванасць.

Езус наказвае прабачаць непрыяцелям, тым больш патрабуе прабачыць тым, хто жыве побач з табою. Езус патрабуе вельмі шмат: не можаш замыкацца пад уплывам якойсьці знявагі, павінен прабачыць семдзесят сем разоў!







Рукі, што адорваюць

*"Давайце, і будзе вам дадзена"*

Адорваць зычлівасцю, радасцю.

Адорваць усіх без выключэння.

Адорваць няспынна.

Адорваць, калі табе цяжка.

Адорваць з ранняга ранку.

Адорваць бескарысна.

Адорваць таго, хто ў патрэбе.

Адорваць таго, хто цябе абразіў.

Адорваць тады, калі самому штосьці патрэбна.

Адорваць любоўю, калі зразумееш, што іншыя рэчы не дапамагаюць, і прасіць у Бога кожны дзень сілы, каб працягваць адорваць.

Адорваць з любоўю, робячы нязначныя справы, але выконваючы іх без прыкметаў прымусу.

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***




## Добры катэхізіс

Ва ўступе да свайго твора яго аўтар, польскі святар кс.Анджэй Зубэрбір, напісаў: "Ці ведаю, у што веру" — кніга вельмі простая. Прынамсі, па задуме яе аўтара. Хрысціянскую веру мы вызнаем моваю, якою не паслугуемся ў паўсядзённым жыцці. [...] Кніга "Ці ведаю, у што веру" імкнецца растлумачыць або ўказаць значэнне слоў і выразаў, якія ўжываюцца для выяўлення хрысціянскай веры і якія мы чуем на лекцыях па рэлігіі, у казаннях, альбо чытаем у Святым Пісанні.

Зразумела, гэта не тлумачэнне веры. Гэта толькі тлумачэнне слоў альбо зваротаў, якімі мы веру выяўляем. Па меры зразумення такіх слоў мы не спасцігнем веры (тое, у што мы верым, даверваючы Богу, заўсёды застаецца таямніцаю), але мы зможам зарыентавацца, што азначае гэта таямніца, у чым яна заключаецца.

Не трэба імкнуцца прачытаць гэтую кнігу на адным дыханні, ад пачатку да канца. Але нават калі хто так і зробіць, няхай пасля паставіць яе дзесьці пад рукою".

Гэты своеасаблівы катэхізіс, які ў Польшчы стаў бестсэлерам, будзе добрым падручнікам для пачынаючых спасцігаць сэнс таго, што прапануе чалавеку Касцёл. Несумненна, ён прыдасца ўсім неабыякавым да ўласнага духоўнага жыцця, асабліва ж – бацькам, моладзі, катэхетам, настаўнікам. Аўтарскі стыль – выразны і лаканічны, – прыгожая мова перакладу дадаюць тэксту станоўчых вартасцяў, якіх нярэдка бракуе беларускім каталіцкім выданням.

**Кнігу можна заказаць па пошце ў рэдакцыі часопіса "Ave Maria".**

Вось ужо колькі гадоў запар задумлівыя муры кляштару марыянаў у Друі (Браслаўскі раён Віцебскай вобласці) прымаюць групу маладых хлопцаў, а потым і дзяўчат — на рэкалекцыі. Яны прыязджаюць сюды, у далёкую і калісьці бінную традыцыі Касцёла, роздум над вечнымі пытаннямі чалавечага жыцця.

Але ёсць, вядома, і песні. Як жа без іх там, дзе сабралася моладзь? Ёсць і сяброўскія размовы пры вечаровым вогнішчы. Часам тут нават наладых людзей вызначальнымі. Часта яны дапамагаюць ім прыняць нейкае вельмі важнае рашэнне ў жыцці, зрабіць рашучы крок насустрач духоўнасці, знайсці сваё месца ў свеце, дзе так лёгка заблудзіцца маладому чалавеку.

# РЭКАЛЕКЦЫІ Ў ДРУІ



вельмі слаўную Друю, каб прыняць удзел у размове пра каталіцкую веру, святы Касцёл, пра тое, што для чалавека найважнейшае. Гэта не форма "каталіцкага" адпачынку, не прыемнае правядзенне вольнага часу пад пабожныя песенькі, што вельмі часта можна бачыць на сустрэчах сучаснай каталіцкай моладзі.

Тое, што адбываецца ў Друі, хутчэй можна назваць пошукам дарогі да Бога, імкненнем усталяваць з Ім трывалы кантакт. Рэкалекцыі ў Друі — гэта шмат малітваў, шмат разважанняў над пытаннямі веры, узіранне ў сябе, сваё "я" і адначасна — гэта наладжванне сяброўскіх сувязяў з равеснікамі, блізкімі табе па поглядах. Рэкалекцыі ў Друі — гэта далучанасць да глыджваюцца спартыўныя гульні. Ды ўсё гэта не замінае галоўнаму — паглыбленню веры ў Бога.

Калісьці кляштар марыянаў у Друі славіўся тым, што нёс святло навукі і культуры, святло каталіцкае веры маладым людзям. Гімназія, якая пры ім існавала, была моцным асяродкам лепшых культурных і рэлігійных традыцый. Пасля надышлі сумнавядомыя гады ваяўнічага атэізму, разбурэння ўсяго духоўнага. Друйская гімназія і ахвярная дзейнасць беларускіх марыянаў таго часу засталіся светлай старонкай у гісторыі Бацькаўшчыны.

У наш час адноўлены касцёл і кляштар марыянаў у Друі прываблiваюць новыя пакаленні моладзі. І часта друйскія рэкалекцыі становяцца для ма-

Гэтым летам кляштар марыянаў у Друі зноў чакае моладзь. Рэкалекцыі для хлопцаў адбудуцца з 18 па 22 ліпеня, для дзяўчат — з 23 па 27 ліпеня.

*Ірэна Задарожная*









Сустрэча з У.Уэйблам у Мінскай Архікатэдры

# СВЯТЛО МЕДЖУГОР'Я

Ёсць на зямлі месцы сапраўды абраныя Богам. Адно з такіх месцаў — Меджугор'е — невялікая вёска, размешчаная ў гарах Цэнтральнай Герцагавіны на тэрыторыі былой Югаславіі. Тут, як вядома, пачынаючы з чэрвеня 1981 г., Маці Божая штодня аб'яўляецца маладым харвацкім візіянерам, перадаючы праз іх свету свае пасланні-просьбы аб пастаяннай, нястомнай малітве…

19 красавіка святло далёкага Меджугор'я нечакана прыйшло ў мінскую катэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Прынёс яго сюды вядомы амерыканскі журналіст і пісьменнік Уэйн Уэйбл, якога справядліва называюць апосталам Меджугор'я. Больш за дзесяць гадоў ён падарожнічае па свеце і распавядае людзям пра гісторыю свайго цудоўнага навяртання, перадае і тлумачыць пасланні Каралевы Спакою. Яго кнігі-сведчанні "Меджугорье. Свидетельство жаждущей души", а таксама "Письма из Меджугорья", выдадзеныя ў Пецярбурзе, вядомы многім таксама і ў нас на Беларусі.



Гэты красавіцкі візіт Уэйна Уэйбла ў нашу сталіцу быў трэцім па ліку. Два папярэднія

адбыліся напачатку 90-х, калі католікі Мінска яшчэ змагаліся за сваю знявечаную катэдру, а сама яна ў той час мала чым нагадвала Дом Божы. І таму цяпер наш госць не хаваў свайго радаснага ўзрушэння, бачачы


Інтэрв'ю для Беларускага радыё

святыню, адроджаную ва ўсёй яе старажытнай прыгажосці. "Цудам веры і вялікай Божай ласкі" назваў ён гэтае адраджэнне. Як сапраўдны цуд успрымалася і яго асабістае сведчанне аб навяртанні, пра якое ён расказаў на ўзгаданай сустрэчы ў мінскай катэдры.

"Упершыню я пачуў пра Меджугор'е дванаццаць гадоў таму, — сказаў Уэйн Уэйбл. — Я быў пратэстантам і журналістам, і таму першым маім жаданнем было напісаць артыкул пра аб'яўленні ў сваю газету. Я ўзяў відэакасету, і ў часе яе прагляду адбылося неверагоднае: я пачуў голас Маці Божай, якая звярталася да мяне. Яна сказала: "Ты — Мой сын. Я хачу, каб ты выканаў волю Майго Сына Езуса Хрыста, Я хачу, каб ты напісаў пра гэтыя аб'яўленні і распаўсюджваў мае пасланні ва ўсім свеце". Я паспрабаваў запярэчыць, але ў той жа момант пачуў голас Бога ў сваім сэрцы і, уражаны, згадзіўся. Праз шэсць гадоў я стаў католікам. Я стаў ім, дзякуючы Езусу Хрысту, дзякуючы Яго цудоўнай прысутнасці ў Эўхарыстыі. Я зразумеў, што сапраўдную свабоду мы маем толькі ў Хрысце... Калі вы маеце ў сваёй душы Езуса — вы маеце ўсё. Будучыня Беларусі — тут, у святыні, у малітве. Маці Божая не можа ўчыніць цуду без нашай згоды, без нашай малітоўнай падтрымкі. У посце і штодзённай малітве на ружанцы — наш паратунак. Маліцеся за свае сем'і, за сваю краіну і малітвы гэтыя будуць абавязкова пачутыя..."

У адным са сваіх пасланняў Маці Божая з Меджугор'я кажа:

"Дарагія дзеці!

Сёння я заклікаю вас да любові. Дзеці, без любові вы не можаце жыць ані з Богам, ані з братамі, таму заклікаю вас адкрыць свае сэрцы Божай любові, бязмежнай і даступнай кожнаму з вас. Бог паслаў Мяне з любові да вас, каб указаць вам дарогу збаўлення, дарогу любові. Калі не палюбіце найперш Бога — не зможаце любіць ані бліжняга, ані таго, каго ненавідзіце. Таму, дзеці, маліцеся, бо праз малітву адкрыеце Бога..."

Гэтыя словы Каралевы Спакою дапамагаюць зразумець сэнс ахвярнага апостальства незвычайнага амерыканскага журналіста і пісьменніка Уэйна Уэйбла, дапамагаюць глыбей спасцігнуць тое, дзеля чаго ён пераадольвае дзесяткі, сотні тысяч кіламетраў, несучы свету сваё сведчанне любові і веры, якое сёння так неабходна людзям. Дзякуй яму за гэта.

***Крыстына Лялько***


Сустрэча з будучай маці



AveMaria

*СКАРБЫ СВЯТОЙ ДУМКІ*

# НЯСПЫННАЯ МАЛІТВА


**Благаславёны Юры Матулевіч (13.04.1871-27.01.1927)**

Калі злыя думкі, што паходзяць з нашае сапсаванай натуры, альбо спакуслівыя падбухторванні шатана пачынаюць каламуціць нашу душу, трэба даўжэй і больш маліцца дзеля таго, каб наша воля, умацаваная малітвай, магла супрацьстаяць злому. Калі ж спакусы зменшыліся і амаль што памерлі, а іхняе месца занялі добрыя і святыя пачуцці, жаданні і імкненні, тады ўжо няма патрэбы надта часта хапацца за зброю, каб даць адпор ворагу. Тады можна менш часу прысвячаць на асобныя малітвы. Калі ідзе гаворка пра асобныя малітвы, то маюцца на ўвазе тыя, якія мы адгаворваем у спецыяльна адведзены для гэтага час, калі молімся ўкленчыўшы альбо, калі знаходзімся ў капліцы.

Варта навучыцца пастаяннай малітве ў духу: калі знаходзімся ў дарозе альбо выконваем нейкую працу, якая не патрабуе разумовых намаганняў. Альбо, калі маем хвіліну вольнага часу, асабліва мяняючы адну працу на другую. Альбо нават тады, калі размаўляем з людзьмі. Словам, заўсёды і ўсюды. Гэтыя нашы кароткія звароты да Бога, гэтыя маланкавыя ўзлёты нашага духу ў неба, пачуццё любові да Бога і бліжняга, погляд на ўсё вачыма веры не вымагаюць ад нас знарок выдзеленага для гэтага часу і не толькі не перашкаджаюць у працы, але яшчэ больш яе ажыўляюць. Варта практыкавацца ў такой пастаяннай малітве.

Гэты святы навык вельмі патрэбны ў нашым актыўным жыцці. Мы павінны хапаць маленькія хвілінкі, якія так хутка прабягаюць і знікаюць, каб маліцца, замяняць іх на малітву. Калі чалавек праз нейкі час навучыць сябе такой малітве, то нават не заўважыць, як яго душа будзе сама пастаянна ўзлятаць да Бога, нібыта яе нясе якаясьці сіла да неба. Колькі ж тады здабываецца святла, колькі святых пачуццяў, як умацоўваецца воля! Калі мы не навучымся выкарыстоўваць для малітвы гэтых хуткаплынных хвілінак, то яны прамінуцца з маланкавай хуткасцю альбо, што яшчэ горш, часта будуць бессэнсоўна траціцца, асабліва ў вольны час.

Наша думка павінна пастаянна працаваць і вакол чагосьці кружляць. Калі яна не ўзнясецца да Бога, да святых рэчаў, то паляціць кудысьці яшчэ, найчасцей, толькі даганяючы вецер, альбо будзе пераварваць нейкія непрыемныя здарэнні, круціцца вакол уласнай асобы і так штораз болей будзе падкармлівацца любоўю да самога сябе. У такі час чалавек больш мучаецца, чымсьці тады, калі выконвае нейкую разумовую працу. Ён толькі раздражняе свае нервы і губляе спакой духа. Благаславёны той, хто навучыцца адрывацца на хвіліну ад клопату і працы і ўзносіцца да Бога, у Богу адпачываць. Асабліва мы. Не могучы прысвячаць шмат часу малітве, мы мусім прывыкнуць да ўнутранай малітвы, да таго, каб безупынна ўзносіць свае думкі да Бога.

Колькі ж хвілін прападае дарэмна, калі мы думаем абы што, пра пустыя рэчы, а часам нават самі не ведаем, пра што. Чалавек тады толькі адчувае, што ён думае, што ягоны розум працуе і нават мучаецца, але пра што ён тады думае — сам таго не ведае; можна сказаць — ганяе вецер. Ці ж не лепш у кожным выпадку сваю думку і душу скіраваць да Бога? Тады нават пры найцяжэйшых нашых занятках мы будзем яшчэ мець дастаткова часу для малітвы.

Навучымся ж хадзіць у прысутнасці Божай, будзем заўсёды гатовыя выканаць тое, што Богу найбольш падабаецца, і наша душа будзе патанаць у малітве. Вышэйшай ступенню святасці з'яўляецца ўменне заўсёды і ўсюды, ва ўсіх акалічнасцях, ва ўсялякай працы, сярод самых розных людзей жыць з Панам Богам, яднацца з Ім, насіць Яго ў сэрцы, у Яго заглыбляцца, у Ім радавацца і цешыцца, Яго шукаць, да Яго ўзносіцца, любіць Яго, а не толькі тады быць у Яго прысутнасці, калі мы знаходзімся ў капліцы, калі кленчым, прамаўляем малітвы.

Благаславёны той, хто працуючы, церпячы цяжкасці дзеля большае хвалы Божай, умее такім чынам паглыбляцца ў Бога і жыць у яднанні з Ім. "Хто ж злучаецца з Панам — ёсць адзін дух (з Панам)" (1 Кар 6, 17).

*НАШЫ АПЕКУНЫ*

# СВЯТЫ КРЫШТАФ



Высокі, мажны святы Крыштаф з маленькім Езусам на плячы вядомы паўсюль. Тым часам мала што вядома пра яго жыццё. Вядома толькі, што адзін святы, які насіў імя Крыштаф, жыў на пачатку IV ст. у горадзе Самос у Малой Азіі і быў замучаны за веру ў Хрыста. Яго вельмі ўшаноўвалі ўжо ў V ст. на ўсім Усходзе, а хутка ён стаў вядомы і ў заходніх краях. Магчыма, у багатай легендзе, звязанай з яго жыццём, ёсць некаторыя факты, якія сапраўды мелі месца.

Напачатку ён насіў імя Рэпроб. Нарадзіўся ў сям'і паганаў у Ханаане. Сам таксама быў паганінам, але меў прагу чыніць дабро, любіў справядлівасць. Лічыў, што найлепш яму ўдасца чыніць дабро, калі даверыцца нейкаму магутнаму мужу. Таму ён і выправіўся да караля тае краіны, бо меркаваў, што кароль павінен быць наймагутнейшы. Аднаго разу, калі ў кампаніі, дзе быў Рэпроб, хтосьці ўзгадаў пра д'ябла, усе перажагналіся. Рэпроб запытаўся, чаму яны гэта зрабілі. Яму адказалі: бо д'ябла ўсе баяцца.

Пасля гэтага Рэпроб пакінуў сваю службу ў караля і вырашыў служыць д'яблу. Той хутка з'явіўся і адразу прыняў прапанову маладога велікана, які добраахвотна пажадаў яму служыць. Ішлі яны неяк разам па дарозе, каля якой стаяў крыж. Д'ябал убачыў яго, адскочыў убок і, азіраючыся па баках, абмінуў яго. Рэпроб пачаў дапытвацца, чаму ён гэта зрабіў. Той неахвотна адказаў, што на крыжы памёр Хрыстус і тым самым перамог яго, д'ябла. Юнак зразумеў, што Хрыстус самы магутны ў свеце.

Ён адразу ж пакінуў д'ябла і пачаў шукаць Хрыста і Бога. Аднаго разу Рэпроб сустрэў старога пустэльніка, якому і паскардзіўся на сваё безвыніковае шуканне Бога. Пустэльнік распавёў яму пра Бога, навучыў, як можна Яму служыць малітвай і постам. Але малады, самаўпэўнены Рэпроб не зразумеў таго навучання. Малітва і пост? Хіба гэта падыходзіць для такога дужага і смелага мужчыны, якім быў ён? Не, ён жадаў змагацца за дабро сваёю сілаю. Пустэльнік быў мудры і зразумеў парывістую натуру маладога чалавека. Таму ён параіў яму ісці да бурлівай ракі, якую вельмі цяжка перайсці. Там, над ракою, Рэпроб павінен чакаць кожнага, каму трэба праз яе пераправіцца. Павінен дачакацца і дапамагчы вандроўніку, а калі трэба, то і перанесці яго на ўласных плячах. Такім чынам, Рэпроб мог бы чыніць добрыя справы і тым самым служыць добраму Богу. Рэпроб згадзіўся, пайшоў да ракі і пачаў там дапамагаць людзям.

Неяк пасля бурнае і цяжкое начы Рэпроб адпачываў. Разбудзіў яго голас Дзіцяці, якое прасіла, каб яго перанеслі на другі бераг. Рэпроб падхапіўся, узяў у рукі свой кій, які служыў яму падпораю пры пераходзе праз раку, на плячо пасадзіў прыгожае Дзіцятка і весела ступіў у ваду. Але з кожным крокам ягоная ноша рабілася ўсё цяжэйшаю і цяжэйшаю. Рэпроб ужо ледзьве не падаў пад сваім цяжарам. Прызнаўся ў гэтым Дзіцятку. Яно ж адказала яму: "Ты не свет нясеш на сваіх плячах, але таго, хто стварыў увесь свет". Пасля гэтых слоў цяжар так прыціснуў Рэпроба, што ён увесь апынуўся пад вадой, а Дзіця прамовіла: "Я — Хрыстус, твой Пан. Хрышчу цябе ў імя майго Айца, у імя маё і ў імя Духа Святога. Паколькі ты нёс Хрыста на сваіх плячах, то цяпер будзеш мець імя Крыштаф, гэта азначае — той, які нёс Хрыста". Прамовіўшы гэтыя словы, Дзіця знікла.

Нейкі час Крыштаф яшчэ выконваў тую працу, якую даручыў яму пустэльнік. Але ў хуткім часе адчуў у душы самоту і вырашыў пайсці па свеце і ўсюды несці імя Хрыста. Так ён і з'явіўся ў краіну Ліцыя, што знаходзілася ў Малой Азіі. Крыштаф пачаў абвяшчаць тут укрыжаванага Хрыста. Шмат паганаў слухала яго і навярталася да веры ў праўдзівага Бога, усемагутнага Пана неба і зямлі. У горадзе Самос да Бога навярнуліся тысячы былых паганаў. Кароль загадаў схапіць Крыштафа і ўчыніць над ім страшныя здзекі. Гарачае жалеза і аліва, стрэлы жаўнераў — усё гэта выцерпеў Крыштаф. Падасланыя да яго жанчыны, якім было загадана схіліць яго да здрады Хрысту, самі сталі хрысціянкамі. У рэшце рэшт Крыштафа забілі.

Святога Крыштафа хрысціяне шануюць як апекуна ад неспадзяванай смерці. Менавіта таму вадзіцелі самых розных машынаў шукаюць апекі ў святога Крыштафа. У дзень святога Крыштафа (25 ліпеня) асаблівае благаславенне ўдзяляецца шафёрам і кіроўцам розных транспартных сродкаў. Таму ў гэты дзень каля касцёла можна ўбачыць шмат машын і матацыклаў, а кожны вернік стараецца мець у сябе абразок святога Крыштафа, каб прымацаваць яго ў машыне. Выпраўляючыся ў дарогу, мы заўсёды просім: "Святы Крыштаф, маліся за нас!".

На абразах мы звычайна бачым святога Крыштафа, які ідзе праз раку і нясе на плячы маленькага Езуса.

**Малітва**

*Усемагутны Божа! На нашай жыццёвай дарозе сустракаецца шмат небяспекаў. Выслухай заступніцтва за нас святога Крыштафа. Дапамажы, каб мы таксама насілі ў сабе Хрыста і разам з нашымі бліжнімі ўпэўнена ішлі да мэты, дзеля якой мы створаныя. Амэн.*





## Разам з Марыськай



*Сябры!*

*Вось і надышла наша пятая таямніца Радаснай часткі святога Ружанца. Я вельмі рада, што сярод нашых чытачоў ёсць шмат тых, хто моліцца гэтую прыгожую малітву. І вельмі рада, што вы прыслалі мне так шмат лістоў. Ведайце, кожны ваш ліст, кожны прыгожы малюнак — вялікая радасць для ўсёй нашай рэдакцыі. Вельмі вас прашу: не марудзьце з адказамі на пятую таямніцу. Бо вы ж, напэўна, памятаеце, што пасля яе мы падвядзём першыя вынікі нашага конкурсу.*

*І яшчэ памятайце: наша супольная малітва і наш конкурс не скончыліся. У наступным нумары мы разам з вамі распачнем другую частку Ружанца — балесную. Калі хто яшчэ не маліўся разам з намі — падключайцеся, калі ласка. Чакаем!*

**Частка першая – радасная**
**Таямніца пятая**

## Езуса знаходзяць у святыні






***Пытанні да разважанняў:***

1. У часе якога свята Езус згубіўся?

2. У якім горадзе гэта адбылося?

3. Колькі гадоў было тады Езусу?

4. Разам з кім Маці Божая шукала Езуса і колькі дзён доўжыліся тыя пошукі?

5. "Ён сказаў ім: "Навошта было вам шукаць Мяне? Ці ж вы не ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму?" Каму належаць гэтыя словы? Знайдзі іх у Евангеллі і пазнач у адказе, як іх адшукаць.

*Святая Марыя! Ты згубіла свайго Сына, але потым, пасля настойлівых пошукаў знайшла Яго. Дапамажы і нам заўсёды шукаць і знаходзіць Яго тады, калі пасля ўчыненага граху мы згубім сувязь з Ім. Дапамажы мне зразумець, што найвялікшае шчасце — хвіліны, праведзеныя перад алтаром Пана Бога.*

*Ойча наш...*

*10 Вітай, Марыя...*

*Хвала Айцу...*

*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы да неба і асабліва памажы тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць.*




# “Як фенікс з попелу бязвер’я...”

Пасяджэнні Міжнароднага сімпозіума “Сям'я і біяэтыка”, які праходзіў у Пецярбургу з 20 да 23 мая і на які былі запрошаны таксама дэлегаты з Беларусі, павінны былі адбывацца ў памяшканні Санкт-Пецярбургскай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі “Марыя – Каралева Апосталаў”, а набажэнствы – у катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Але адрас удзельнікам быў пададзены адзін: 1-я Чырвонаармейская вуліца, дом 11. Пасля марных пошукаў будынку на Чырвонаармейскай вуліцы нарэшце хтосьці з нас усклікнуў: “Вунь, глядзіце, крыжы над дахамі, – катэдра, напэўна, там”. Мы, больш не аглядаючыся і не шукаючы, узялі арыенцір на крыжы, якія ўзвышаліся над будынкамі. Аднак, перайшоўшы праз вуліцу на другі бок, убачылі цёмна-сінія купалы-цыбуліны праваслаўнага храма. Спыніўшыся, пачалі шукаць каталіцкі крыж. І неўзабаве знайшлі. Толькі, на жаль, не высока над будынкамі, а на шыльдзе, якая сціпла сведчыла, што тут, у гэтым будынку – катэдра Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Шыльда была заціснута вялікімі і кідкімі шыльдамі “Ломбард”, “Картель банкъ”. Падняўшыся па лесвіцы, абапал якой знаходзіліся фірмы, мы нечакана трапілі ў чысцюткую, выбеленую святыню. Там ужо гасцей надчэквалі семінарысты – семінарыя знаходзіцца практычна за сцяною катэдры. Цяпер у ёй вучыцца 60 клерыкаў (у тым ліку 48 дыяцэзіяльных і 12 законных - францішканаў і салезіянаў) з Расіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Малдавіі...

Цікавая і поўная драматызму гісторыя каталіцызму ў Расіі.

У канцы XVII – пачатку XVIIIст., пры Пятры I, пачалося паступовае збліжэнне праваслаўнай Расіі з каталіцкім светам Заходняй Еўропы. Менавіта тады католікі атрымалі права свабодна прыязджаць і будаваць каталіцкія святыні ў рускіх гарадах. Пасля далучэння ў XVIIIст. да Расійскай Імперыі Прыбалтыкі, Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі і часткі тэрыторыі Польшчы, імперыя займела цэлыя рэгіёны з насельніцтвам каталіцкага веравызнання. Указам імператрыцы Кацярыны II у Расіі было створана 12 каталіцкіх дыяцэзій. Вышэйшым органам кіравання каталіцкім Касцёлам у Расіі была Рыма-каталіцкая духоўная калегія, заснаваная ў 1801г. Мясцовымі органамі ўлады з’яўляліся духоўныя кансісторыі (дыяцэзіяльныя курыі) у кожнай дыяцэзіі.

Тагачасная сталіца Расіі – Санкт-Пецярбург – увайшла ў склад Магілёўскай архідыяцэзіі, мітрапаліт якой быў адначасова галавой каталіцкага Касцёла Расійскай Імперыі.

Першая каталіцкая святыня ўзнікла ў Санкт-Пецярбургу неўзабаве пасля заснавання горада. На працягу XVIII - XIXстст. колькасць католікаў у горадзе павялічвалася з кожным годам, бо на расійскую службу паступалі грамадзянскія і ваенныя спецыялісты з Заходняй Еўропы, перасяляліся ў сталіцу многія палякі, літоўцы, латышы, якія прымалі грамадзянства Расіі, прыязджалі эмігранты з Францыі ў гады французскай рэвалюцыі і моладзь з Заходніх губерняў, якая паступала ў навучальныя ўстановы Пецярбурга. З павелічэннем колькасці вернікаў-католікаў у Пецярбургу пачалі будавацца новыя касцёлы і капліцы. Паступова таксама ў сталіцу Расіі пачалі перамяшчацца і асноўныя касцёльныя ўстановы. У 1846г. у набытым Касцёлам будынку (дарэчы, будынак быў куплены ў нашчадкаў паэта Г.Д.Дзяржавіна) размясцілася Рыма-каталіцкая духоўная калегія. У 1849г. з Вільні ў Пецярбург была пераведзена Духоўная Акадэмія. У гэтым жа годзе вырашана было


Асвячэнне фігуры Маці Божай у двары семінарыі






У часе Святой Імшы, прысвечанай рэкансэкрацыі катэдры

перанесці з Магілёва ў Пецярбург і Духоўную семінарыю. У пачатку 1870-х гадоў пачало разглядацца пытанне аб пераносе ў сталіцу Расіі рэзідэнцыі мітрапаліта каталіцкага Касцёла... 2 жніўня 1870г. была заснавана новая святыня, якая пазней атрымала годнасць катэдры. 9 сакавіка 1873г. Аляксандр II падпісаў “Высочайшее повеление” аб пераводзе з Магілёва ў Пецярбург капітулы і кансісторыя Магілёўскай архідыяцэзіі. Так святыня атрымала статус мітрапалітальнага архікатэдральнага касцёла і назву Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны ад Магілёўскай святыні, якая раней выконвала гэтую ролю. Магілёўская ж катэдра стала парафіяльнаю. 12 красавіка 1873г. арцыбіскуп Антоні Фіялкоўскі пасвяціў катэдру і будынак кансісторыі. У 1876г. у катэдру былі перанесены рэліквіі святога Фларыяна Мучаніка, святога Грыгора Нарыянзенскага, Яна Кенцкага, Тадэвуша-Апостала, біскупа Станіслава Мучаніка, вызнаўцаў Казіміра і Станіслава Косткі.

У 1896 - 1897гг. у святыні былі праведзены будаўнічыя работы з мэтаю яе пашырэння. Трэба адзначыць, што колькасць вернікаў у той час настолькі ўзрасла, што набажэнствы ў выходныя і святочныя дні адбываліся кожныя паўтары гадзіны. Вяліся яны на лацінскай, польскай, літоўскай і рускай мовах. У 1913г. у Пецярбургу было 85610 католікаў, якія наведвалі 35 святыняў, капліцаў і хатніх каплічак. Архікатэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі быў адным з самых вялікіх у Пецярбургу... Цяпер, калі бачыш знявечаны і заселены ламбардамі і банкамі будынак катэдры, цяжка ўявіць тую яе былую веліч і хараство, не верыцца, што калісьці тут быў цэнтр каталіцкага жыцця на Усходзе...

Аднак падзея, якая адбылася ў Пецярбургу 24 мая г.г., чарговы раз пацвердзіла прароцтва Маці Божай Фацімскай аб навяртанні Расіі: у гэты дзень у Санкт-Пецярбургу Яго Эксцэленцыяй арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам, Апостальскім Адміністратарам для католікоў еўрапейскай часткі Расіі, была кансэкравана катэдра Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэтая старажытная святыня ў свой час была пракатэдраю самай вялікай у свеце Магілёўскай архідыяцэзіі. Яна фактычна служыла катэдраю Магілёўскіх арцыбіскупаў, рэзідэнцыя якіх знаходзілася ў Пецярбургу і якія да 1917г. кіравалі каталіцкім Касцёлам тагачаснай Расіі. Ва ўрачыстасці кансэкрацыі прымалі ўдзел кардынал Альфонсо Лопэз Трухільё, старшыня Папскай Рады па справах Сям’і, Апостальскі нунцый у Расіі арцыбіскуп Джон Букоўскі, Ломжынскі біскуп Станіслаў Стэфанэк TChr, біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч, біскупы з Амерыкі, Італіі, Расіі, шматлікія святары і вернікі.

На пачатку ўрачыстасці ўсіх прысутных прывітаў


Сярод шматлікіх гасцей біскуп Гродзенскі А.Кашкевіч

пробашч катэдры кс.Стэфан Кацынэль. А пасля слова ўзяў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Апостальскі Адміністратар для католікаў еўрапейскай часткі Расіі. І ў гэтым слове і затым у казанні Яго Эксцэленцыя не хаваў свае вялікае радасці з нагоды кансэкрацыі галоўнай каталіцкай святыні ў Расіі.

Ён, у прыватнасці, сказаў: "Яшчэ адна святыня становіцца домам Божым, становіцца домам малітвы дзеля ўмацавання людзей у веры, у іх маральнасці, у іх любові і надзеі. І няхай ніколі не паўторыцца тое, што адбылося больш за 70 гадоў таму назад, няхай не знойдзецца такая рука, якая пасягне на гэты храм і няхай ніколі не настане такі час, каб зачыняліся святыні...

Гісторыя каталіцкага Касцёла ў Расіі вельмі цесна звязана з Санкт-Пецярбургам і канкрэтна з гэтай катэдрай перадусім таму, што, акрамя рэзідэнцыі біскупа, тут знаходзіліся Вышэйшыя духоўныя школы – семінарыя і акадэмія. У гэтай катэдры, якая складае адзінае цэлае з семінарыяй, маліліся і ўзрасталі ў сваіх цнотах, рыхтуючыся да будучай пастырскай дзейнасці, а таксама да мучаніцтва за Хрыста і за Касцёл каля 700 святароў, якія выйшлі з Санкт-Пецярбургскай "Alma Mater" за 40 гадоў яе існавання да рэвалюцыі 1917г. З гэтых сценаў выйшлі пастыры, сапраўдныя рыцары Хрыста і святыя Божыя. Гэта яны потым, не шкадуючы сіл і не баючыся пераследаванняў, працавалі на ніве Гасподняй у Расіі і ў многіх іншых краінах... Арцыбіскупа Яна Цепляка, які праходзіў па так званаму "Ленинградскому делу", удалося выратаваць толькі дзякуючы хадайніцтву міжнародных арганізацый, пралата ж Канстанціна Будкевіча расстралялі ў Велікодную ноч 1923г.

62 выпускнікі семінарыі сталі біскупамі, а двое з іх – кардыналамі: Аляксандр Какоўскі ў Варшаве і першы кардынал у былым СССР – Рыжскі біскуп Юліян Вайводс.

Арцыбіскуп Юры Матулевіч, напачатку біскуп Віленскі, потым Папскі легат у Літве, заснавальнік Супольнасці Сясцёр-Эўхарыстак, у 1987г. Папаю Янам II далучаны да ліку благаслаўлёных.

Беатыфікацыйны працэс Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага, які быў спачатку біскупам Мінскім, а потым Пінскім, ужо завершаны.

Закончаны таксама беатыфікацыйны працэс Слугі Божага Зыгмунта Фелінскага. Ён заснаваў Кангрэгацыю Сясцёр Сям'і Марыі. Гэта далёка няпоўны пералік людзей, чые лёсы цесна звязаны з гэтым гістарычным і святым месцам...

Узведзеная ў 1873г., катэдра Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі неаднаразова перабудоўвалася і ў сувязі з гэтым ужо тры разы асвячалася: у 1873, 1897 і ў 1902 гадах. Парафія налічвала 15 800 чалавек. Гэта былі людзі розных нацыянальнасцяў, але іх яднала вера. Суседства катэдры з Траецкім саборам Рускай праваслаўнай Царквы стварала добрыя ўмовы для развіцця міжхрысціянскага дыялогу. Гэтым заўсёды славіўся Пецярбург, і гэта таксама й сёння з'яўляецца яго адметнаю асаблівасцю.

Спіс святыняў, што масава зачыняліся пасля рэвалюцыі, дапоўніла і гэтая катэдра, зачыненая ў 1922г. Будынак быў падзелены на два паверхі і ў ім пачаргова размяшчаліся шпіталь, лабараторыі і аддзелы Інстытута зямельнага машынабудавання, а таксама банк. І толькі ў 1996г., пасля таго, як перадалі частку будынка семінарыі, святыня была аддадзена каталіцкай парафіі.

Першае набажэнства адбылося 9 лістапада 1996г. Яно было прысвечана перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай. Марыя, як бы выконваючы сваё прароцтва аб навяртанні Расіі да Бога, увяла нас ў гэтую гістарычную святыню.

Сёння, удзельнічаючы ў гэтай урачыстасці новага асвячэння нашай катэдры, мы дзякуем Богу за вялікую ласку адраджэння. Як фенікс з попелу, гэтак катэдра, прысвечаная Маці Божай, паўстае з руінаў да новага жыцця. Мы дзякуем нашым дабрычынцам, архітэктарам, рэстаўратарам, кіраўнікам працаў і ўсім, хто ўнёс свой уклад у справу аднаўлення святыні.

Умілаваныя браты і сёстры, у мітусні нашага жыцця мы не перастанем дзякаваць Богу за гэтую ласку і ніколі не забудзем дарогі да святыні. Няхай яна садзейнічае падрыхтоўцы ў семінарыі "Марыя – Каралева Апосталаў" святароў, годных сваіх папярэднікаў, і няхай будзе тым месцам, дзе чалавек становіцца святыняю Божаю. З радасцю ж паспяшайма ў гэты дом Божы, а Ён, наш добры Айцец, які жыве там і чакае чалавека, прывядзе нас да мэты, да нябеснага Ерузалема"...

Са слязьмі на вачах перажывалася прысутнымі гэтая незвычайная ўрачыстасць, якая адбывалася ў Паўночнай сталіцы Расіі, у калісьці такім блізкім і нам, беларусам, Пецярбургу. І хочацца верыць, што менавіта яна, старажытная Пецярбургская катэдра, а таксама Вышэйшая Духоўная Семінарыя пры ёй, з дапамогаю Маці Божай паслужаць умацаванню таго міжхрысціянскага дыялогу, якім заўсёды славіўся Пецярбург і які так неабходны ўсім нам сёння, на парозе трэцяга тысячагоддзя.

А.К.












І да гэтага часу адсюль уцякаюць. Да гэтага часу небяспека хаваецца і крочыць следам за кожным жыхаром. Слепнуць вуліцы ад забітых ці пакінутых наросхрыст хатаў. Мучацца старыя і дзеці ад хваробаў і стомы. Нібы знак пракляцця ляжыць на гэтай надзвычай прыгожай зямлі беларускага Палесся – Нараўляншчыне. Яна ўслана дыванам радыяцыі так, што і праз дзесяцігоддзе промні чарнобыльскай атруты працягваюць здзяйсняць сваю смяротную справу.

Нароўля... Некалі адзін з найпрыгажэйшых нашых райцэнтраў. Гарадок на самым-самым беразе вечна неспакойнай Прыпяці. Цяпер ён незвычайна ціхі і малалюдны. І ўсё ж я не магу сказаць, што гэты горад памірае. Пасля сустрэчы з каталіцкім святаром а.Станіславам Салатам я перастаў змрочна думаць пра чарнобыльскі край. Будынак касцёла, узведзены пад кіраўніцтвам гэтага ксяндза, сведчыць, што жыццё напаўняецца верай і многія людзі даверылі ўжо свае душы Пану Богу.

– Мы далі назву Святога Крыжа нашай парафіі і нашай святыні таму, што Чарнобыль – гэта крыж людскіх пакутаў. Але крыж – сімвал выратавання, – кажа мне а. Станіслаў, калі мы робім "агледзіны" новазбудаванага касцёла, самага сучаснага і прыгожага будынка ў Нароўлі. Святар паведаміў яшчэ, што месца пад касцёл было атрымана перад святам Узвышэння Святога Крыжа.

А. Станіслаў не толькі пробашч гэтай святыні, але і наогул адзіны каталіцкі святар на нараўлянскай зямлі. Дзякуючы намаганням а.Станіслава, у недалёкай адсюль вёсцы Грушаўка ўзводзіцца яшчэ адзін касцёл. Неўзабаве і ў Грушаўцы і ў Нароўлі адбудуцца кансэкрацыіі святыняў...

Упершыню ксёндз Салата наведаў Нароўлю ў 1991годзе. Ён родам з Польшчы. Належыць да ордэна Святой Сям'і. Калі прасіў у біскупа Кандрусевіча дазволу працаваць у Беларусі, яму прапанавалі наведаць Мазыр, адкуль шлях і прывёў яго ў самы цэнтр чарнобыльскай катастрофы. Апусташэнне, паўсюдны песімізм, слёзы, забітыя горам людзі, бязмежны адчай – вось што ўразіла тады святара. І ніводнай каталіцкай святыні. Дзякуй Богу, што ў Грушаўцы ўжо існавала парафія...

За сем гадоў святар даў больш за 30 шлюбаў і ахрысціў каля 50 чалавек. Штодзённыя набажэнствы. Частыя пахаванні. І кожную гадзіну – клопаты пра будоўлю, пра ўпарадкаванне новых касцёлаў, пра ўмацаванне парафіі, але а. Станіслаў лічыць гэта не заслугаю, а звычайным жыццём святара, ягоным служэннем Хрысту.

Напэўна, яно так і ёсць. Але каб не смеласць гэтага чалавека, аднаго з першых, хто ўзяў на сябе крыж чарнобыльскага выратавання, не было б у Нароўлі цэнтра, дзе людзі знаходзяць духоўную апеку і падтрымку.

*Анатоль Кляшчук.*
*Фота аўтара*

## ПАМЯЦІ СВЯТАРА



**10 чэрвеня, пасля цяжкай хваробы, скончыў свой зямны шлях ксёндз пралат Міхал Варанецкі.**

Пахаванне, у якім прымалі ўдзел кардынал К.Свёнтэк, біскуп А.Кашкевіч, а таксама каля ста святароў з Польшчы, Расіі і трох дыяцэзій Беларусі, адбылося 12 чэрвеня.

***Ксёндз Міхал Варанецкі*** нарадзіўся 23.12.1908г. у Новай Вілейцы ў сям`і начальніка пошты. Сакрамэнт хрышчэння прыняў у касцёле св.Казіміра, тут таксама быў бежмаваны благаславёным Юрыем Матулевічам. У часе першай сусветнай вайны сям`я Варанецкіх была эвакуіравана ў глыб Расіі (жыла ў Самары, Пензе і Пецярбургу). У Пецярбургу, у касцёле св.Станіслава Міхал прыняў Першую Св.Камунію.

Пасля вяртання ў Новую Вілейку Міхал распачаў вучобу ў школе ксяндзоў-місіянараў. Закончыў Семінарыю Місіянераў у Кракаве; у 1929г. склаў шлюбы законныя, а ў 1935г. прыняў святарскае пасвячэнне. Ксёндз Міхал працаваў вікарыем у касцёле Святога Крыжа ў Варшаве, потым прафесарам у Ніжэйшай Духоўнай Семінарыі і капеланам шпіталя ў Кракаве. З 1937г. быў капеланам шпіталя ў Львове.

Пасля вайны застаўся пробашчам у Лыскаве. У 1949г. быў арыштаваны, асуджаны ў Брэсце на 25 гадоў лагераў. У лагерах Казахстана знаходзіўся да 1956г.

Пасля вяртання з ГУЛАГу працаваў пробашчам у Ружанах да 1990г., несучы душпастырскую службу ў 12 навакольных парафіях. У 1990г. быў прызначаны старшынёю Біскупскага Суда ў Гродне, а пасля стварэння Гродзенскай дыяцэзіі – Генеральным Вікарыем.

У Вышэйшай Духоўнай Семінарыі выконваў функцыі духоўнага айца, а таксама выкладаў грэцкую мову, аскетыку і біблістыку.

***Вечнае спачыванне, дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць...***

**«Ave Maria»**
Май-чэрвень № 5-6 (43-44) 1998
Заснавальнік –
Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце
Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ",
220141 г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.
Зак. 7. Наклад 10 000 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
тэл./факс: (0172) 26-90-92
Архікатэдральны касцёл
Імя Найсвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдасцца
на ахвяраванні вернікаў

### У НУМАРЫ





*Перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай па Мінскіх парафіях.*









